+тэлепраграма
№ 47 (309) 20 сьнежня 2002 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

**Шостае пашырэньне Эўропы**
Пасьля пятага пашырэньня Эўразьвязу Беларусь будзе зь ім межаваць. Аднак шостае пашырэньне можа нас не накрыць. Старонкі 4—5.

**"Чалавеку патрэбнае прыгоства"**
Гутарка з Івонкай Сурвіллай. Старонкі 12—13.

**Бабруйская малалетка**
Дзеці за кратамі: перадкалядны рэпартаж. Старонка 14.

**Ліка стала Агурбаш**
Ліка Ялінская выйшла замуж за грэка, перамагла ў конкурсе "Місіс Расея" і паедзе на полюс. Старонка 16.

АНОНС

## Калядны нумар "НН"

### 24 старонкі

Палітычныя, эканамічныя, культурныя, спартовыя вынікі году. Найлепшыя фатаздымкі году. Бэстсэлеры году. Мыльныя бурбалкі году.

Сем апавяданьняў на сем зімовых вечароў: Уладзімер Арлоў "Каталёнскі дзёньнік", Наталка Бабіна "Цырк на дроце, ці Дамачкі сярэдняга веку", Раймaнд Карвэр "Тоўсты", Севярын Квяткоўскі "Шампанскае ў шафе", Леанід Маракоў "Бізнэс-кляса", Вінцэсь Мудроў "Конская сіла", Вольга Такарчук "Прафэсар Эндрус у Варшаве".

Пытайцеся ў шапіках ад 26 сьнежня. Вясёлых Калядаў з "Нашай Нівай"!

акцыя салідарнасьці

## Дапаможам Марылі

**Нядаўна Горацкі райаддзел адукацыі адмовіў Марылі Каральковай у праве вучыцца па-беларуску. Наш абавязак цяпер — паспрыяць таму, каб Марыля атрымала самую лепшую адукацыю.**

Тут у Менску мы набудзем для яе ўсе неабходныя падручнікі на беларускай мове, энцыкляпэдыі, кампакт-дыскі. Я згодны навучаць дзячынку выяўленчаму мастацтву. Упэўнены, настаўнікі іншых прадметаў адгукнуцца і пагодзяцца з Марыляй займацца.

А 4 студзеня а 17-й Марылю і яе бацькоў мы будзем чакаць у менскім Палацы дзяцей і моладзі на калядным вечарыне — для ўдзелу ў сьвяце і сустрэчы зь сьвятым Мікалаем ды яе будучымі настаўнікамі і сябрамі. Тут Марыля набудзе новых сяброў, пачуе добрыя словы і забудзецца на сваю бяду.

Беларускае грамадзтва павінна быць гатова змагацца за кожную жывую душу, за кожнага беларуса. У гэтым наша беларуская салідарнасьць. І ў гэтым наша моц. Каб тыя, хто не пайшоў з Марыляй у беларускую клясу, і тыя чыноўнікі, якія не стварылі беларускай клясы, убачылі, што за Каральковымі — уся дэмакратычная, культурная, адукаваная Беларусь.

**Мікола Купава, мастак**

**Ад рэдакцыі.** Усе ахвотныя ўзяць удзел у акцыі салідарнасьці з Марыляй Каральковай, зьвяртайцеся ў Рэдакцыю "НН".

# "Прыёрбанк" перадаюць аўстрыйцам

**Дзяржава мае аддаць кантрольны пакет акцыяў другога па велічыні банку ў рукі заходняга капіталу. На яго прэтэндуе аўстрыйская банкаўская група *"Raiffeisen"*. Канчатковае рашэньне — у студзені.**


IREX-PROMEDIA

На архіўным фота размаўляюць Сяргей Касьцючэнка, старшыня праўленьня "Прыёрбанку", і ягоны акцыянэр Міхаіл Лявонаў, дырэктар МТЗ. Прайшоў год — і як усё зьмянілася...

Прычына — трэба новыя інвэстыцыі. У банку пакуль не паведамляюць, пакеты якіх акцыянэраў будуць выстаўленыя на продаж і колькі складзе агульны кошт угоды. Віктар Дудко, віцэ-прэзыдэнт "Прыёрбанку" па сувязях з грамадзкасьцю, адзначыў толькі, што гэта будзе вялікі пакет. Канчатковыя абрысы гешэфту акрэсьляцца на пачатку 2003 г. Праект яшчэ не абмеркаваны назіральнай радай "Прыёрбанку" ды сходам акцыянэраў.

Паводле нашых зьвестак, *"Raiffeisen"* пагадзіўся набыць 51% пакету "Прыёрбанку" з умовай, што дзяржава не атрымае "залатой акцыі", якая дазваляе блякаваць рашэньні акцыянэраў. Урад папярэдне згадзіўся на такія ўмовы.

Сваю долю ў "Прыёрбанку" маюць МАЗ, "Гарызонт", МТЗ, "Беларуснафта", Гомельскае прадпрыемства нафтаправоду "Дружба", "Азот", "Белвэст", Беларускі мэталюргічны завод і іншыя, пераважна зьвязаныя зь дзяржавай, кампаніі. Трымаюць акцыі й фізычныя асобы. У сакавіку 1998 г. у "Прыёрбанк" прыйшоў першы буйны замежны акцыянэр — Эўрапейскі банк рэканструкцыі й разьвіцьця, які набыў 27% пакету. Наш банк, акрамя падвышэньня статусу, атрымаў ад гэтага акцыянэра каля 11 млн. даляраў крэдыту на падтрымку малога й сярэдняга бізнэсу.

Найбуйнейшым акцыянэрам "Прыёрбанку" на сёньня зьяўляецца ЭБРР. Ягоны пакет, паводле словаў Віктара Дудка, на продаж выстаўляцца ня будзе.

"Прыёрбанк" зьяўляецца банкам-агентам па абслугоўваньні замежных дзяржаўных пазыкаў у банках Аўстрыі. Магчыма, з продажам ягоных акцый групе *"Raiffeisen"* павысяцца шанцы Беларусі на атрыманьне крэдытаў Захаду. Зрухі ў бок лібэралізацыі эканамічнай палітыкі ёсьць: сярод апошніх — зьніжэньне арэндных ставак для прадпрымальнікаў ды зьмякчэньне рэгістрацыйных нормаў. "Лібэралізацыя эканамічнай палітыкі — гэта запозьненае выкананьне перадвыбарчых прэзыдэнцкіх абяцаньняў. У старонняга назіральніка можа скласьціся ўражаньне, што Лукашэнка паддаўся ціску Расеі, якая патрабуе лібэралізаваць гаспадарку. Насамрэч гэта рэалізацыя шматвэктарнай палітыкі ў эканоміцы, скіраванай ня толькі на Ўсход, але й на Захад", — мяркуе аналітык Валеры Булгакаў.

На пачатку году ўласны капітал "Прыёрбанку" склаў 45,1 млрд. рублёў (28,6 млн. даляраў). Паводле рэйтынгу кампаніі *"Deloitte&Touche"* (1999), "Прыёрбанк" — другі па значнасьці ў краіне. Ён саступае толькі "Беларусбанку" і зьяўляецца адным з шасьці банкаў, што ўтвараюць стрыжань беларускай банкаўскай сыстэмы.

Акцыі "Прыёрбанку" карыстаюцца попытам. У лістападзе на Беларускай валютна-фондавай біржы была заключаная 21 здзелка зь ягонымі акцыямі агульным аб'ёмам на 61,7 млн. рублёў. Аўстрыйскія ўкладаньні зробяць "Прыёрбанк" яшчэ больш прывабным для інвэстараў.

У банкаўскую групу *"Raiffeisen"* уваходзіць 607 банкаў ды 1725 рэгіянальных аддзяленьняў. Гэта адзін з асноўных камэрцыйна-інвэстыцыйных банкаў Аўстрыі. Асабліва актыўна *"Raiffeisen"* дзейнічае ў Цэнтральнай ды Ўсходняй Эўропе, дзе мае 12 сеткавых банкаў і 2 прадстаўніцтвы, што даюць працу 12 тыс. чалавек. Летась балянсавы капітал банку вырас на 22,3% у параўнаньні з 2001 г. і склаў 44,6 млрд. эўра. *"Raiffeisen"* трымае акцыі іншых банкаў ды кампаніяў на агульную суму 1,4 млрд. эўра. Калі справа з продажам пакету акцый "Прыёрбанку" будзе вырашаная станоўча, гэтая сума яшчэ пабольшае.

**Алесь Кудрыцкі**




Гарадзенскія журналісты Павал Мажэйка і Мікола Маркевіч сустрэнуць Каляды і Новы Год асуджанымі за прафэсійную дзейнасьць. Свабоду, якую яны гэтак чакаюць, нельга затрымаць, як і калядную пасылку. Давайце дашлём Маркевічу і Мажэйку прыгожыя калядныя паштоўкі й сьціплыя падарункі, каб нашая шчырасьць і цеплыня дапамагалі ім у чаканьні свабоды.

Калядныя падарункі для зьняволеных журналістаў прымаюць Менскі (пл.Свабоды, 17, п.304) і рэгіянальныя офісы Беларускай асацыяцыі журналістаў. Таксама падарункі можна даслаць на паштовыя адрасы — для Паўла Мажэйкі: Мікрараён-3, д.3, пакой 208, 247210, Жлобін Гомельскай вобл.; для Міколы Маркевіча: вул.Сомчанкі, 38, пакой 434, 213760, Асіповічы Магілёўскай вобл.

## пацярпелыя за Беларусь

13 сьнежня судзьдзя Пінскага суду Р.Лабачэўская дала 10 начаў арышту сябрам КХП-БНФ Лявону Вабішчэвічу й Ігару Саракавіку за "парушэньне месца пікетаваньня". Іхны дазволены ўладамі пікет у падтрымку "гераічнай барацьбы чачэнскага народу за свабоду і незалежнасьць супраць расейскіх акупантаў" стаяў 26 лістапада ў цэнтры Пінску за 5 мэтраў ад пазначанага ў заяўцы месца. 14 сьнежня ў электрацягніку Менск—Ворша скінегды зьбілі актывістку "Зубра" Алесю Ясюк, што распаўсюджвала спэцвыпуск газэты "Барысаўскія навіны". 17 сьнежня гарадзенскай пэнсіянэрцы Ірыне Салей, былой супрацоўніцы газэты "Пагоня", далі 10 тысячаў штрафу за тое, што вывесіла на ўласным бальконе бел-чырвона-белы сьцяг. Зрабіла яна гэта 25 сакавіка, штраф вылічылі з пэнсіі толькі ў сьнежні. 26 лістапада быў звольнены з працы за апазыцыйную дзейнасьць актывіст моладзевага руху "Зубр" Сяргей Пезкін з Барысава.

Падрыхтаваў А.Ш.




16 сьнежня Віктар Івашкевіч прыехаў у Баранавічы, дзе ён у 1979–81 г. служыў у будбаце. Каля паправуча-працоўнай калёніі адкрытага тыпу яго чакалі журналісты. Першы паверх ППК аддадзены пад краму й фірмы, таму на фасадзе будынку вісіць вялізны плякат "Рытуальныя паслугі". Рэдактар "Рабочага", пабачыўшы гэта, сумна пасьміхнуўся. В.Івашкевіча засялілі ў пакой да яшчэ двух "хімікаў". Гэта няблага, бо маюцца пакоі й на пяцёх. 18 сьнежня рэдактар "Рабочага" ўладкаваўся на працу ў незалежную мясцовую газэту "INTEX-PRESS". Будзе працаваць кур'ерам — разносіць газэты па Баранавічах.

Руслан Равяка, Баранавічы

На фота: у Менску на разьвітаньне сябры прынесьлі Віктару Івашкевічу слоік з гуркамі.

## тыдзень нашага жыцьця

### Бюджэт-2003: сюрпрызаў ня будзе

**17 сьнежня палата прадстаўнікоў зацьвердзіла бюджэт на 2003 год.** За праект у другім чытаньні прагаласавалі 72 дэпутаты, супраць — 6. Прыняты бюджэт істотна ня розьніцца ад прапанаванага ўрадам праекту.

### Быкаў у Празе

**Народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў зь Нямеччыны пераехаў на жыхарства ў Чэхію.** Ён захоўвае беларускае грамадзянства і час ад часу прыяжджае на Бацькаўшчыну.

### Фонд новы, твары старыя

**У Маскве адбылася прэзэнтацыя беларуска-расейскага фонду "За новую Беларусь".** На яе зьехаліся Міхаіл Чыгір, Васіль Лявонаў, Анатоль Паўлаў, Генадзь Бураўкін, Павал Шарамет. В.Лявонаў бачыць задачу фонду ў тым, каб паказаць, што "ў Беларусі няма ворагаў Расеі".

### Знайшоў сябра

**У пятніцу А.Лукашэнка ў часе сустрэчы зь лідэрам расейскіх камуністаў Генадзем Зюганавым** прасіў "разьлічваць на яго ў цяжкую хвіліну", а таксама падзякаваў за падтрымку, якую той "аказваў беларускаму народу". Мусіць, будзем зь беларускіх кішэняў фінансаваць антыпуцінскую апазыцыю.

### Добра плаваем

**На чэмпіянаце Эўропы па плаваньні ў Нямеччыне беларускія спартоўцы ўзялі 12 і 13 сьнежня два мэдалі.** Золата атрымала Алена Попчанка (100 мэтраў вольным стылем). Ейны вынік — 53,66 сэкунды. Бронзу прынесла Беларусі Ганна Шчэрба (200 мэтраў комплексным плаваньнем) з вынікам 2 хвіліны 10,23 с.

## удакладненьне

У матэрыяле пра вынікі муніцыпальных выбараў у Польшчы ("НН" №42 ад 15 лістапада) была дапушчаная прыкрая памылка. Насамрэч бурмістрам Бельску-Падляскага быў абраны Яўгеніюш Беразовец, а не Андрэй Сьцепанюк. Прыносім прабачэньні чытачам.

Рэдакцыя

## лісты ў рэдакцыю

### У камісіі ўключылі "бяззубых"

**У СМІ зьявілася інфармацыя аб уключэньні асобных прадстаўнікоў апазыцыі з ПКБ, ЛДПБ, БСДП (НГ) у выбарчыя камісіі. Але практыка сьведчыць, што ўключаюць толькі тых грамадзян, якія адно фармальна зьяўляюцца апазыцыянэрамі, але ня здольныя адстойваць сваю пазыцыю ў камісіях. Чаму б не ўключыць "бяззубых" апазыцыянэраў для адводу вачэй?**

Зьдзекам з здаровага сэнсу гучаць словы функцыянэраў з Цэнтравыбаркаму, што прадстаўнікі апазыцыі ня маюць досьведу працы ў выбарчых камісіях і таму іх ня трэба туды ўключаць. Практыка ўсіх папярэдніх выбарчых кампаніяў сьведчыла, што менавіта прадстаўнікі апазыцыі, працуючы назіральнікамі, ведалі і выконвалі патрабаваньні ВК, тады як сябры розных выбарчых камісіяў, і асабліва іх кіраўніцтва, прызначанае выканаўчай уладай, больш арыентаваліся на тэлефонная права, чым на нормы заканадаўства.

Відавочна, што мясцовыя выбары ператвараюцца ў плацдарм для ўмацаваньня палітычнага апартэіду ў Беларусі. Выйсьці з гэтага становішча магчыма праз правядзеньне выбараў пад міжнародным пратэктаратам па міжнародных стандартах. Толькі тады беларусы будуць здольныя выказаць сваю рэальную волю, а ня быць закладнікамі аўтарытарнага рэжыму.

Міхась Лагор, Гарадок

### Незалежнасьць даўжэйшая за Леніна

**Набліжаюцца Каляды, Новы год. На паштамце безьліч прыгожых сьвяточных паштовак, толькі вось набыць іх замінае гэта пачварнае "З Раждзаством", якое нахабна крочыць па краіне, замяніўшы сабой спрадвечна беларускае "Вясёлых Калядаў" ці хоць бы "З Нараджэньнем Хрыстовым". "Белпошта" ўпарта ня хоча ці ня ўмее рэкламаваць свой край. Мастацкія канвэрты з помнікамі архітэктуры, славутымі людзьмі, памятнымі датамі прызначаныя для рассылкі па Беларусі, што вельмі добра, але ў замежныя краіны чамусьці прадаюць чысты белы канвэрт.**

А якую долю зазналі беларускія цукеркі! У "Лакамцы" (ці "Ласуне"?) беларускамоўных фанцікаў няма зусім. "Камунарка" тлумачыць, што, маўляў, шмат цукерак адпраўляецца ў Расею. Ну і што з таго? Мая расейская радня просіць прывозіць цукеркі менавіта зь беларускімі назвамі. Ім вельмі цікава чытаць іх. Напрыклад, ім вельмі падабаліся цукеркі "Ліса-махлярка". Зараз гасьцей ужо даведзецца частаваць цукеркамі "Лиса-плутовка".

Увечары вырашыў забіць двух зайцоў: за сымбалічны кошт патрапіць усярэдзіну Палацу Рэспублікі (звычайна канцэрты там дарагія) і паглядзець канцэрт славутых "Харошак". Канцэрт быў цудоўны. Пасьля кожнага танцу — авацыі, кветкі, выкрыкі "брава". Праўда, дасьведчаныя гледачы заўважылі, што склад удзельнікаў ансамблю амаль цалкам абноўлены, шмат моладзі і таму няма пакуль што той вытанчанасьці рухаў і шляхетнасьці, як у былых "Харошках". Сцэна Палацу занадта вялікая, і таму артысты вымушаныя былі рабіць вялікія крокі, ад чаго некаторыя танцы былі больш падобныя да беганіны. У танцах паболела акрабатычных нумароў — высачэзныя скокі, шпагаты, прысядкі, пераключаньні, ад якіх у хлопцаў часта спадалі з галавы капелюшы. Усё гэта, на мой погляд, больш уласьціва *"русским пляскам"*, але менавіта гэта публіка вітала з асаблівым імпэтам. І зусім ужо залішнім быў дым, які ахутваў сцэну цягам усяго канцэрту. Фальклёр жа — ня рок.

Яшчэ шкада — праграмка была надрукаваная расейскаю моваю. Толькі назва на вокладцы па-беларуску, а ўнізе па-ангельску, ужо ў расейскай транскрыпцыі: *KHOROSHKI*. І.Гаявая, якая выйшла на сцэну ў фінале, не сказала гледачам двух словаў па-беларуску, хаця з залі нават чуліся воклічы "Жыве Беларусь!".

Вы скажаце, я ўсё крытыкую, а трэба нешта рабіць. Я напісаў аднойчы ліст да кіраўніцтва мэтрапалітэну з пытаньнем, калі ўжо нарэшце будуць заменены шыльды "Плошча Леніна" на "Плошча Незалежнасьці". Мне адказалі, што гэта тэхнічна складана і дорага, бо ў слова "Незалежнасьці" больш літараў, чым у слова "Леніна". І ўвогуле, шыльды пакінутыя па просьбе вэтэранскіх арганізацыяў. Як той казаў, дзе сеў, там і зьлез.

Лявон Гуменьнікаў, Менск

### Рэкляма з падвойным дном

**Такое ўражаньне, што на сутнасьць рэклямных аб'яў вялікай увагі ў нас не зьвяртаюць. Бо, калі б зьвярталі, у друку ды ў тэлевізары было б куды менш недарэчнасьцяў і часам проста хлусьні.**

Вось музэй васковых фігур з Санкт-Пецярбургу настойліва рэклямуе чарговую выставу, запрашаючы азнаёміцца з "сцэнай расстрэлу царскай сям'і".

Або тыя "геніі й ліхадзеі, якія зьмянілі хаду гісторыі", што таксама рэклямуюцца. Вось Хрушчоў — ён хто? Геній ці ліхадзей?

Аднак усіх пераплюнулі ў галіне рэклямы "зоркі папулярнай музыкі" ды арганізатары канцэртаў. Вось тут сапраўднае ліпы — колькі заўгодна! Яшчэ толькі пачаўся год, як у лютым Аляксандар Саладуха ўласным пявучым галасочкам агучыў рэклямны ролік, дзе вельмі сьціпла назваў уласны тур "галоўнай музычнай падзеяй году". Здрастуй, чужая мілая! Год толькі пачаўся, а ўжо ўсё ясна. Будзе галадуха — адзін Саладуха. І тут нейкая паненка Сяргея Менскага называе "найбольш папулярным выканаўцам Беларусі". Тады Саладуха — ён хто са сваім турам? Незразумела. Або "Саўнд джаз-клюб" рэклямуе расейца Ігара Бутмана ледзь не як прадстаўніка амэрыканскага джазу. Так, згодны, музыка ён выдатны, колькі гадоў сапраўды пражыў у Амэрыцы, але прэзэнтуе ўсё ж Расею. Гэтаксама як Пятрас Вішняўскас — Літву, а не Стакгольм, як стаяла на рэклямных афішах таго самага "Саўнд джаз-клюбу". Зь Вільні, а зусім не зь Нямеччыны, і Уладзімер Чакасін.

Ці калі-небудзь каго пакаралі ў Беларусі за хлусьлівую рэкляму, то бок публічны падман, проста — рублём? Мо гэта прымусіла б задумацца й час ад часу зьвяртаць увагу на адпаведнасьць рэклямных ролікаў голай праўдзе.

Антон Ворша, Менск

### Перакладчыкі ёсьць

**У "НН" №45 была сутэррэпліка Алеся Лагвінца пра беларушчыну для ўнутранага ўжытку. Абсалютна падобная сытуацыя назіраецца ў Стакгольме.** Кагорты апазыцыянэраў прыяжджаюць сюды і амаль усе размаўляюць па-расейску, бо па-савецку наіўна ўпэўненыя, што няма тут перакладчыкаў зь беларускай. Між тым, толькі я ведаю трох прафэсіяналаў у перакладзе зь беларускай на швэдзкую, зьвесткі пра якіх ёсьць на сайтах перакладчыцкіх кантораў.

А потым тыя швэды пытаюць (сярод іх шмат хто ведае расейскую мову, бо нават у войску вучылі): "Чаго гэтыя дзіўныя белыя расейцы хочуць? Якой незалежнасьці? На якой гістарычнай ці культурнай падставе?"

Сорам за краіну!

Андрэй Катлярчук, Стакгольм

### Я ўратавала кацяняты

**Магчыма, гэтая мая назва здасца нясьціплай, але ёй я хачу прыцягнуць увагу да праблемы жывёл і стаўленьня да іх людзей.**

У вэтлякарню па вул.Сямёнава, 32а мужчына прынёс вясёлых і здаровых месячных кацянятаў, каб іх прысыпаць. Але работнік лякарні мужчыну адмовіў і прапанаваў аддаць жывёлінак у спэцфургон, дзе іх нібыта "гуманна" заб'юць.

Я, ведаючы сытуацыю, як яна ёсьць, прашу тых, хто хоча пазбавіцца ад ката ці сабакі, ня верыць таму, што іх прысыпяць гуманна — гэта будзе вельмі жорстка і пакутліва! Не бярыце грэху на душу! Зьвяртайцеся ў зоаабарончыя арганізацыі, у рэклямныя СМІ — і ваша жывёліна знойдзе сабе новага гаспадара.

Забраныя мной кацяняты радыя свайму выратаваньню.

Р.В., Менск

## эканамічная хроніка

### Першы "Боінг"

**У красавіку 2003 г. "Белавія" займее першы "Боінг-737/500".** Ён будзе лётаць зь беларускай сталіцы ў 10 гарадоў Эўропы і ў Ізраіль (аэрапорт Тэль-Авіў). Цяпер перападрыхтоўку праходзяць 5 экіпажаў і 25 сьцюардэсаў кампаніі "Белавія". Іх ужо вучылі даваць рады "Боінгу" ў Міжнародным навучальным цэнтры палётаў у Кіеве, цяпер яны працягнуць курс у Амстэрдаме і Празе.

### Тэлеканкурэнцыя



**Расейскія вытворцы тэлевізараў ("Рубін", "Сокал", "Полар" ды "Ролсан") афіцыйна паскардзіліся прэм'еру Касьянаву на беларускіх канкурэнтаў,** якія прадаюць сваю прадукцыю ў Расеі з 25%-й зьніжкай. На "Віцязі" й "Гарызонце" кажуць, што расейцы папросту імкнуцца выціснуць з рынку добрых вытворцаў, зь якімі ня могуць канкураваць.

### Ровары на экспарт

**Менскае АТ "Мотавэля" распачало стварэньне сумеснага прадпрыемства "Марбела", якое будзе выпрабляць беларускія ровары ва Ўзбэкістане.** Ровары, у асноўным, пойдуць на экспарт у Расею.



### "Сібнафта" набыла "Слаўнафту"

**Кампанія "Сібнафта" набыла з аўкцыёну і расейскую частку "Слаўнафты" — 74,95% акцыяў, аддаўшы за іх 1,86 млрд. даляраў.** Нездарма "Сібнафта" была адзінай, якая праявіла цікаўнасьць да беларускага пакету акцыяў "Слаўнафты" (10,83%), купіўшы яго за 207 млн. даляраў.

### "Макдональдз" – стратны

**"Макдональдз" упершыню за сваю гісторыю нясе страты.** Яны складуць 5—6% на акцыю, бо аб'ёмы продажу ў рэстарацыях скараціліся за кастрычнік—лістапад на 1,6%. Непрададзеныя гамбургеры прымусілі індэкс *Dow Jones* зьнізіцца на 1,07%.

### "Siemens" сочыць за надзейнасьцю

**Кампанія *"Siemens"* мяняе стратэгію гарантыйнага абслугоўваньня мабільных тэлефонаў.** Пачынаючы з 16 сьнежня усе мабілы *"Siemens"*, афіцыйна імпартаваныя ў Беларусь, будуць суправаджацца нумарнымі гарантыйнымі талёнамі новага ўзору. Без такога талёну гарантыйныя рамонты ажыцьцяўляцца ня будуць.

### Аўтапаркі Берасьцейшчыны ўзбуйняюць

**На Берасьцейшчыне пачалі ўзбуйняць аўтобусныя паркі.** Нерэнтабэльныя далучаюць да прыбытковых. Бяз стратаў сёньня працуюць толькі аўтапаркі Берасьця, Баранавіч ды Пінску. Гэтак, да апошняга далучылі аўтапарк Янава, які, маючы 23 аўтобусы, выкарыстоўваў толькі 4 зь іх. Яны хадзілі па 8—9 маршрутах.

### "Саюзны самалёт" не ўзьляцеў

**12 студзеня палата прадстаўнікоў афіцыйна "пахавала" беларуска-расейскае пагадненьне пра стварэньне самалёта агульнага прызначэньня, якое прынялі яшчэ ў 1994 г.** Замоўцам зь беларускага боку было Міністэрства транспарту й камунікацыяў, праект быў уключаны ў сьпіс дзяржаўных праграмаў. Расейскі ўрад самалёт цікавіў мала, нават адпаведная дзяржаўная праграма не была зацьверджаная. Паводле праекту, бакі меліся цягам 1994—2000 гадоў стварыць самалёт РБА-М-102Б "Беларусь". Але 54,68 млн. даляраў на распрацоўку, сэртыфікацыю ды падрыхтоўку вытворчасьці самалёта не знайшлі. Замест гэтай праграмы пастанавілі распачаць іншую — мадэрнізаваць самалёт ТУ-134М.

### "Звязда" скарачаецца

**Газэта "Звязда" зьбіраецца скараціць штат сваіх супрацоўнікаў на 10%.** Выклікана гэта складаным фінансавым становішчам. З жніўня заробкі ў газэце выплачваюцца зь перабоямі. Адной з прычынаў крызысу стала далучэньне да выданьня зусім стратнае "Чырвонае змены", што істотна павялічыла выдаткі газэты.

**А.К., А.Ш.**

# Спрошчаная працэдура рэгістрацыі

**17 сьнежня прэзыдэнт падпісаў дэкрэт, які спрашчае працэс рэгістрацыі ды ліквідацыі юрыдычных асобаў. Паводле яго, адпадае патрэба ў "юрыдычным адрасе". Цяпер прыватныя ўнітарныя прадпрыемствы можна рэгістраваць "па месцы прапіскі" заснавальніка.**

Ранейшыя дэкрэты №11 ад 16 сакавіка 1999 г. і №222 ад 16 лістапада 2000 г., што вызначалі парадак рэгістрацыі й ліквідацыі суб'ектаў гаспадараньня, таксама патрабавалі, каб у статуце прадпрыемства ці фірмы былі запісаныя ўсе віды дзейнасьці. Цяпер трэба пазначаць толькі прадугледжаныя законам (напрыклад, зьвязаныя зь небясьпекай для здароўя). Каб заняцца нейкім іншым відам дзейнасьці, дастаткова папярэдне паведаміць пра гэта ў рэгістрацыйныя і падатковыя органы.

Ліквідаваць суб'екты гаспадараньня будуць толькі рэгістрацыйныя органы (раней трэ было склікаць ліквідацыйную камісію).

Дзяржаўнай рэгістрацыяй прадпрыемстваў з замежнымі інвэстыцыямі будзе займацца ўжо не Міністэрства замежных справаў, а аблвыканкамы і Менгарвыканкам.

Адзіны абмежавальны захад лібэральнага дэкрэту — у часе рэгістрацыі даччыных арганізацыяў заснавальнік мусіць дакумэнтальна засьведчыць, што ня мае нявыкананых грамадзянска-прававых забавязаньняў (кшталту неаддадзенага крэдыту). Калі гэткія ёсьць, а згоды крэдытораў на заснаваньне прадпрыемства няма, яно ня будзе зарэгістраванае.

Новы дэкрэт не адмяняе, а дапаўняе старыя: тыя, хто ўжо зарэгістраваўся паводле старых правілаў, ня мусяць перарэгістроўвацца.

**Алесь Кудрыцкі**

### меркаваньне экспэрта

Юрыст **Сяргей Балыкін** мяркуе, што гэты дэкрэт толькі крыху аблегчыць стан некаторых прадпрымальнікаў і рэгістрацыйных ды кантрольных органаў. Тое, што прыватныя УП дазволілі рэгістраваць па хатнім адрасе, — станоўчы факт, але чаму нельга рэгістраваць такім жа чынам ЗАТ, ТДА і г.д.? Дэкрэт прадугледжвае, што ў выпадку рэгістрацыі УП па месцы жыхарства аплата камунальных паслугаў будзе весьціся паводле парадку, вызначанага Саўмінам. Як падказвае практыка, гэта азначае стоадсоткавую аплату. Спрашчэньне працэсу ліквідацыі аблягчае жыцьцё толькі рэгістрацыйным органам, але не прадпрымальнікам. Тое, што рэгістрацыю прадпрыемстваў з замежнымі інвэстыцыямі аддалі аблвыканкамам ды Менгарвыканкаму, справы не зьмяняе — галоўнае ня тое, хто рэгіструе, а правілы рэгістрацыі. Патрэба запісваць віды дзейнасьці ва ўстаноўчыя дакумэнты толькі зьмякчаная, а яе трэ было б увогуле адмяніць. Дрэнна, што дэкрэт павялічыў колькасьць падставаў для адмовы ў рэгістрацыі, несудовай ліквідацыі прадпрыемстваў ды колькасьць дакумэнтаў, патрэбных для рэгістрацыі. Калі заснавальнік УП адмаўляецца пускаць праверку (лічы, да сябе ў хату), дык гэта ўжо падстава для несудовай ліквідацыі. Акрамя таго, зараз давядзецца невядомым чынам даставаць даведкі пра тое, што заснавальнік ня мае запазычанасьцяў перад крэдыторамі. Калі так, дык дзяржава сама ня мае права ствараць унітарныя прадпрыемствы, бо мае найвялікшыя запазычанасьці ў краіне.

# Рэзка зьніжаюцца арэндныя стаўкі

**З 1 студзеня стаўкі арэнднай платы для большасьці прадпрымальнікаў і бізнэс-структураў зьнізяцца. А вось для турфірмаў ды рыэлтараў яны могуць пабольшаць.**

Арэнда складае вялікую долю расходаў кожнага прадпрыемства, якое ня мае ўласных памяшканьняў. Большая частка офісных будынкаў належыць дзяржаве. Мэханізм вызначэньня арэнднай платы за карыстаньне дзяржаўнай нерухомасьцю прапісаны ў прэзыдэнцкім указе №495, прынятым сёлета 30 верасьня. Гэты дакумэнт адмяніў аналягічны, які дзейнічаў з 1996 г. Мясцовыя ўлады мусяць перазаключыць дамовы з арандатарамі да 1 студзеня.

Памер арэнднай платы вылічваецца зыходзячы зь велічыні базавай стаўкі. Гэтую лічбу памнажаюць на каэфіцыент ад 0,1 да 20 — усё залежыць ад стану памяшканьня, наяўнасьці тэлефона ды іншых камунікацыяў, а таксама ад віду дзейнасьці.

Калі стары ўказ вызваляў ад арэнднай платы бюджэтныя арганізацыі, дык новы дае магчымасьць не плаціць за арэнду нават бізнэсоўцам. Калі вы маеце грошы, але ня ведаеце, у якую справу іх укласьці, наладжвайце харчаваньне для дзяцей у садках ці якіх навучальных установах — арэнды з вас ня возьмуць. Ад арэнды вызваляюць таксама прадпрымальнікаў, якія займаюцца выданьнем ды продажам кніжак, зьвязаных з адукацыяй, навукай ды культурай, пры гэтым рэалізацыя культурніцкай прадукцыі мусіць складаць больш за 50% ад агульнага аб'ёму вытворчасьці. Каб вызваліцца ад арэнды, можна стварыць працоўныя месцы "на замову" Менгарвыканкаму ці адпаведнага аблвыканкаму.

Зусім невялікую арэнду (базавую стаўку, памножаную на каэфіцыент 0,1) будуць плаціць бізнэсоўцы, якія маюць сярод сваіх працаўнікоў 50% і больш інвалідаў. На памяншальны каэфіцыент 0,4 маюць права недзяржаўныя адукацыйныя ўстановы, а таксама бізнэсоўцы, што займаюцца грамадзкім харчаваньнем (калі нацэнка на стравы ня большая за 70%), побытавым абслугоўваньнем, утрымліваюць аптэкі ці маюць крамы, што гандлююць ураздроб. Нічога такога ў старым указе 1996 г. не было. Аднак эканамічная лібэралізацыя тут вельмі й вельмі адносная: калі арэнду за пералічаныя вышэй рэчы зьнізілі больш чым у два разы, дык бізнэс, зьвязаны з турызмам, рыэлтарскімі паслугамі, цяпер, згодна з новым указам, прадугледжвае каэфіцыенты ад 1,5 аж да 20.

**А.К.**

### даведка "НН"

Памеры базавых ставак арэнднай платы вызначаюцца ў эўра. Найменш бяруць за плошчы, якія выкарыстоўваюцца для вытворчасьці. Найбольшыя стаўкі арэнды ў Менску. У сталіцы памер базавай стаўкі для вытворчых памяшканьняў роўны 5 эўра, для плошчаў зьмешанага выкарыстаньня – 7 эўра, невытворчага выкарыстаньня – 10 эўра. У абласных цэнтрах і Бабруйску – адпаведна 2,5; 4; 6. У меншых населеных пунктах базавыя стаўкі вагаюцца ад 0,5 (Берасьцейшчына, вёска, памяшканьні для вытворчага выкарыстаньня) да 5,4 эўра (Гомельшчына, гарады з насельніцтвам звыш 100 тыс. чалавек, памяшканьні для невытворчага выкарыстаньня). Крытэры вызначэньня ставак розьняцца па абласьцях. Так, на Гарадзеншчыне, Віцебшчыне й Меншчыне ў аснову пакладзены адміністрацыйныя прынцыпы: усе населеныя пункты, у якіх тэарэтычна можа жыць арандатар, падзяляюцца на гарады абласнога і раённага падпарадкаваньня, пгт ды "іншыя". На Гомельшчыне стаўка залежыць ад колькасьці насельніцтва – у асобныя групы выдзеленыя гарады за 100 тыс. чалавек, 50–100 тыс., да 50 і вёскі. Вось дзе стаўкі расьпісаныя падрабязна, дык гэта на Магілёўшчыне. Там гарады кожнае групы пералічаныя "паіменна". Найбольшыя стаўкі ў Крычаве, Горках і Асіповічах. Ёсьць нават асобная стаўка для рабочых пасёлкаў, кшталту Глушы ці Ялізава. Самыя нізкія стаўкі арэнды ў катэгорыі невялікіх гарадоў і вёсак на Гарадзеншчыне, самыя высокія – на Гомельшчыне і Магілёўшчыне.




**Пад Нясьвіжам (Меншчына) зварылі "залаты стык" газаправоду Ямал—Эўропа.** Беларускі кавалак трубы даўжынёй у 575 км збудаваны. Застанецца выцiснуць зь яе паветра ды запоўніць газам.

# "Газпром" амаль банкрут

**Расейская *"Независимая газета"* зьмясьціла сэнсацыйны дакумэнт, які сьведчыць: запазычанасьці "Газпрому" дасягнулі 14,7 млрд. даляраў і перавысілі гадавыя выплаты па крэдытах усёй Расеі.**

Дакумэнт, які трапіў у *"НГ"*, — праект пастановы кіраўніцтва кампаніі "Аб зацьвярджэньні праграмы запазычаньняў і разьмяшчэньня каштоўных папераў на 2003 г.", які сакрэтна падпісаў старшыня праўленьня Аляксей Мілер. Праект даступны вельмі абмежаванаму колу асобаў у кіраўніцтве канцэрну, на кожнай ягонай старонцы стаіць пазнака "канфідэнцыйна".

У 2003 г. "Газпром" мусіць выплаціць 7,5 млрд. даляраў. Вялікую частку экспартных паступленьняў (за якія канцэрн і жыве, бо продаж газу па ўнутрырасейскіх коштах стратны) давядзіцца аддаваць крэдыторам для пагашэньня пазык. Набраныя крэдыты зьядаюць 70% сукупных экспартных даходаў "Газпрому". Ліміты запазычаньняў на ўнутраным рынку "газавы монстар" вычарпаў. Брак грошай не дазволіць канцэрну павялічыць здабычу газу і ягоныя пастаўкі за мяжу ды атрымаць цьвёрдую валюту.

Крызыс "Газпрому" пагражае эканамічнай і палітычнай стабільнасьці Расеі, якой у 2003 г. трэба выплаціць па дзяржпазыках 17 млрд. даляраў. Да іх могуць дадаца яшчэ й пазыкі "Газпрому".

**Франц Субель**

# Беларусы маюць столькі ж шанцаў на ўступленьне ў Эўразьвяз, колькі

**У выніку сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў — сяброў Эўразьвязу ў Капэнгагене 12—13 сьнежня Эстонія, Латвія, Літва, Польшча, Чэхія і яшчэ пяць краінаў атрымалі афіцыйныя запрашэньні ўступіць у ЭЗ з 1 траўня 2004 г. У 2007 г. да аб'яднанай Эўропы далучацца Баўгарыя і Румынія. Пасьля 2007 г. па-за межамі Эўразьвязу застануцца занадта багатыя Нарвэгія, Швайцарыя і занадта бедныя Беларусь, Украіна, Малдова, краіны Балканаў і Турэччына.**



Кіраўнік МЗС Францыі Дамінік дэ Вільпэн нядаўна выказаўся супраць "бясконцага пашырэньня Эўразьвязу". Вялікі розгалас атрымала й заява старшыні Эўракамісіі Рамана Продзі, што беларусы, украінцы й малдаване ніколі не далучацца да ЭЗ: "Што з таго, што ўкраінцы або армяне адчуваюць сябе эўрапейцамі? Жыхары Новай Зэляндыі таксама лічаць сябе эўрапейцамі". Камісар ЭЗ па замежных сувязях Крыс Патэн патлумачыў, што з гэтага вынікае: беларусы і ўкраінцы маюць столькі ж шанцаў на ўступленьне ў Эўразьвяз, колькі й новазэляндцы.

Турэччыне паабяцалі, што ў сьнежні 2004 г. ЭЗ "будзе гатовы" пачаць перамовы аб уступленьні краіны ў Зьвяз. Але для гэтага трэба, каб у Брусэлі прызналі, што Турэцкая Рэспубліка гатовая ўвайсьці ў Эўропу.

Менску ж і Кіеву ніхто нічога не абяцаў. "Амаль усе яны [заходнія палітыкі], — піша "*Le Figaro*", — лічаць: неабходна спыніць "пашырэньне" Эўропы на ўсход. Заходу трэба "праглынуць" 10 новых сяброў ЭЗ, а з краінамі СНД усталяваць толькі партнэрскія стасункі".

Для большасьці насельнікаў "старой" Эўропы нашыя краіны ўсё яшчэ застаюцца Расеяй, а мы самі — носьбітамі ўсяго дэструктыўнага, пагрозай цывілізаванаму сьвету. *BBC* лічыць нашую краіну "канцэнтраваным адстойнікам для нелегалаў з азіяцкіх ды афрыканскіх краінаў, якія кіруюцца ў Заходнюю Эўропу". Таму, паводле лёнданскай "*The Times*", "новая ўсходняя мяжа Эўразьвязу, перш за ўсё з Украі-

### Нарвэгія закрыла мяжу для Лукашэнкі

**Нарвэгія афіцыйна абвясьціла пра тое, што закрывае свае межы для прэзыдэнта Беларусі.** Такую пастанову ўлады краіны тлумачаць нежаданьнем беларускага лідэра паважаць дэмакратычныя правы і свабоды грамадзян. Нарвэгія стала 16-й краінай, што адмовілася прымаць на сваёй тэрыторыі А.Лукашэнку.

### Ня стала Радуева

**Чачэнскі палявы камандзір Салман Радуеў, які адбываў пажыцьцёвае зьняволеньне ў Пэрмі, памёр у турэмным шпіталі.** Абставіны ягонай сьмерці высьвятляюцца. Ён ужо трэці значны чачэнскі камандзір, які гіне ў турме. Цела Салмана Радуева ня будзе перададзенае сваякам. Паводле слоў прадстаўніка расейскага Галоўнага ўпраўленьня выкананьня пакараньняў, "асуджаны Радуеў будзе пахаваны паводле інструкцыі".

### П'яныя сланы

**У аўторак у індыйскім штаце Асам статак п'яных ашалелых сланоў, шукаючы рысавага піва, затаптаў шэсьць чалавек.** Жывёліны бурылі халупы, разьбівалі бочкі зь півам, спусташалі сьвірны. Гэта ўжо ня першы выпадак такога шаленства. Актыўнае высяканьне лясоў змушае індыйскіх сланоў пакідаць звыклыя арэалы пражываньня. Часьцей сутыкаючыся зь людзьмі, жывёліны прыахвочваюцца да мясцовых алькагольных напояў. Гэта і выклікае неадэкватныя паводзіны. За апошнія два гады дзікія сланы ў штаце Асам, дзе жыве амаль палова індыйскай папуляцыі гэтага віду, забілі 150 чалавек. Людзі ў адказ зьнішчылі 200 жывёлін.

### Памёр ад холаду

**80-гадовы вэтэран вайны Мікалай Бабкоў памёр 12 сьнежня ў сваёй кватэры ў Вусьць-Куце (Іркуцкая вобласьць).** Тэмпэратура ў ягонай кватэры сягала да -40°С. У квартале, дзе ён жыў, ацяпленьне выключылі яшчэ мінулай зімой. Не працавала каналізацыйная сістэма, у дамах не было вады. Людзі ратаваліся, ацяпляючы свае кватэры электраабагравальнікамі. Але ўрэшце за нявыплаты энэргетыкі адлучылі і электрычнасьць.

**Ф.С.**

# ЗША вяртае Смаленскі архіў

**Пасол ЗША ў Расеі Аляксандар Вэршбоў на тым тыдні перадаў міністру культуры РФ Міхаілу Швыдкому частку архіву за 1917—38 г., які ў час другой сусьветнай вайны быў вывезены нацыстамі, а потым апынуўся ў Амэрыцы. У ЗША тыя дакумэнты былі апублікаваныя яшчэ ў 60-я. Савецкія чыноўнікі абвяшчалі іх "фальшыўкай ЦРУ".**



Большая частка партархіву КП(б)Б, якую камуністы не змаглі эвакуяваць, была вывезеная немцамі ў Рыгу і адтуль вярнулася па вайне ў Беларусь. Дырэктар Нацархіву Вячаслаў Селяменеў дакладных зьвестак пра дакумэнты, перададзеныя амэрыканцамі, ня мае: "Там, здаецца, больш матэрыялаў па 30-х, калі Смаленшчына ўжо ня мела сувязі зь беларускімі справамі. Нас жа больш цікавяць дакумэнты 1918—20 г."

А гісторык Ігар Кузьняцоў пэўны, што ў Смаленскім архіве ёсьць цікавыя нам рэчы: "Там дакумэнты з часоў абвяшчэньня БССР, калі ўрад яшчэ сядзеў у Смаленску. Дый навошта зважаць на цяперашнія палітычныя межы, разглядаючы гістарычныя праблемы?" Запыт зь беларускага боку ў справе архіву І.Кузьняцоў лічыць нерэальным: "Дакумэнты тычацца рэпрэсіяў, а ў нас сёньня гэтая тэма не ўздымаецца". І сапраўды, Андрэй Савіных, в.а. прэс-сакратара МЗС, мяркуе, што "ўздымаць пытаньне пра дакумэнты рана".

**А.Ш.**

# Як далучацца да Эўразьвязу

**Днямі быў на канфэрэнцыі, дзе абмяркоўвалася далейшае пашырэньне Эўразьвязу. Са зьдзіўленьнем даведаўся, што яшчэ тры гады таму на тых, хто казаў, што Беларусь у хуткім часе да ЭЗ не далучыцца, у Брусэлі фыркалі ды называлі такія размовы "некарэктнымі палітычна" і "абразьлівымі для нашых усходніх суседзяў". Цяпер пра такую далікатнасьць можна забыцца. Але ж калісьці ("асьцярожныя аптымісты" гавораць пра 2020 г.) і мы будзем перамаўляцца з Брусэлем пра ўмовы далучэньня да Эўразьвязу. Тады, акрамя галоўных праблемаў (колькі дадуць грошай на прыстасаваньне да "ЭЗ-стандартаў"), будуць і дробныя, кшталту тых, якія мае цяпер Польшча. Варта прыглядзецца да досьведу суседзяў, каб падрыхтавацца.**



### Польскае віно

У Эўразьвязе не разумеюць, што такое "*тосне wino owocowe*" (па-польску сяркод аматараў "*wiśniaki*", даляр за літар, а панаску — "чарніла"). Ад вытворчасьці гэтага цудоўнага напою палякі — пэўна, з тых самых прычынаў, што і беларусы, — адмовіцца, асабліва ў халодны зімовы пэрыяд, ня могуць, таму быў знойдзены кампраміс. На пляшках павінна быць напісана не "вішнёўка" ці "сунічнае", а "*Polish wine*" (польскае віно), каб кожны эўразьвязавец ведаў, што гэтага ня варта купляць, калі йдзеш у прыстойныя госьці. А што будзе, калі праз якіх 15 гадоў да Эўразьвязу далучымся мы са сваім "Крыжачком"? Ён што — таксама "*Polish wine*"? Вось дзе праблема для брусэльскіх экспэртаў!

### Цэнтар Эўропы-2

Напярэдадні запрашэньня ў Эўразьвяз, палякі адкрылі на сваёй тэрыторыі геаграфічны цэнтар Эўропы. Яго нават тэлевізія паказвала: беластоцкая вёсачка з драўлянымі хаткамі, жыхары якіх чакаюць эўрапейскіх інвэстыцыяў. На некаторых хатках нават папрыбівалі блакітныя сьцяжкі з жоўтымі зорачкамі. "Эўракраты", напэўна, перадачу гэтую глядзелі, таму далі Польшчы больш грошай на сельскую гаспадарку, чым плянавалі.

Але ж цэнтар Эўропы — ля возера Шо на Глыбоччыне! Няўжо палякі пра гэта ня ведалі? А мо адмысловa прыдумалі ўсё, каб Эўропа пашкадавала? У любым выпадку, праз тузін гадоў, калі нават самі палякі пра ўсё забудуцца, мы таксама здымем кранальную перадачу пра наш цэнтар Эўропы — дадатковыя эўрабанкноты не пашкодзяць.

### Каліноўскі змагаецца

Галоўныя спрэчкі паміж Варшавай і Брусэлем тычыліся датацыяў на сельскую гаспадарку. Гэтае пытаньне найбольш зацята адстойваў польскі міністар сельскай гаспадаркі зь легендарным прозьвішчам Каліноўскі. Ледзь ня кожны хлебароб з Гайнаўскага павету гэтае прозьвішча ведае. Запытаюцца ў яго якія-небудзь *BBC*: "Уот ду ю, маўляў, думаеце пра памер датацыяў, што прапануе вам *European Union*?" А ён ім: "міністар Каліноўскі, панове, нас ня кіне, ён за нас змагаецца", — і г.д.

А ці ведаюць беларусы прозьвішча свайго міністра сельскай гаспадаркі? Трэба гэтае пытаньне "падцягнуць", а то ляпнем потым *BBC*, што ня ведаем, хто за датацыі змагаецца.

### Небясьпечная любоў да спорту

Польскі віцэ-прэм'ер і міністар фінансаў сп.Калодка, які таксама быў у Капэнгагене, актыўна займаецца спортам. Штораніцы бегае 15 км! Не адмовіўся ён ад сваёй звычкі нават у дзень апошніх перамоваў пра далучэньне да Эўразьвязу — дый пабег па Капэнгагене. Бегаў, бегаў, ледзь знайшоў дарогу назад да гатэлю, а ахова яго не пускае! Што за віцэ-прэм'ер у "адыдасах" — гэта ж антыглябаліст нейкі! Давялося ледзь не самога прэм'ера выклікаць, каб пацьвердзіў, што гэта сапраўды ягоны намесьнік-спартовец. У выніку польская дэлегацыя ледзь не спазьнілася на перамовы і магла праз аднаго чалавека ўвесь марафон да Эўразьвязу прайграць.

У Беларусі сярод кіроўных элітаў хіба толькі адна асоба вядомая гарачай любоўю да спорту. Застаецца спадзявацца, што, калі дойдзе да перамоваў з Брусэлем, яе ні ў якіх беларускіх дэлегацыях ня будзе. З лыжамі напэўна ў гатэль ня пусьцяць.

**Аляксей Дзікавіцкі, Варшава**

# Самагубствы ад цеснаты

**Перанаселенасьць брытанскіх турмаў выклікае рост самагубстваў сярод зьняволеных. Паводле слоў генэральнага дырэктара пэнітэнцыярнай службы Мартына Нэрэя, летась зьвялі рахункі з жыцьцём 85 брытанскіх зьняволеных. Сёлета — ужо 117.**

"Рост колькасьці зьняволеных і вялікая цякучасьць кантынгенту, асабліва ў турмах мясцовага значэньня, абцяжарваюць выяўленьне людзей, схільных да суіцыду, і дапамогу ім", — кажа сп. Нэрэй.

Эн Оўэрз, галоўны інспэктар турмаў, кажа: "Брытанскія турмы зрабіліся за апошні год менш прыстойным і менш бясьпечным месцам. Зьняволеныя вымушаныя цясьніцца ў адзіночках, падоўгу быць зачыненымі, а рэабілітацыйныя праграмы неэфэктыўныя".



З часу прыходу да ўлады ў Брытаніі лейбарыстаў колькасьць "зэкаў" у краіне рэзка — на 10 тыс. — павялічылася і дасягнула рэкорднае адзнакі ў 73 тыс. чалавек.

**Паводле "*Daily Telegraph*"**

## у сяброў з СНД

# Найлепшы бардэль Кіргізіі

**15 сьнежня ў Бішкеку адбыўся конкурс на найлепшы публічны дом.**

Штогадовую прэмію "Пераходны чырвоны ліхтар" заснавала няўрадавая арганізацыя "Таіс Плюс", якая займаецца прафілактыкай вэнэрычных захворваньняў і СНІДу. Даюць узнагароду ўстанове, дзе найбольш бясьпечна і цывілізавана арганізаванае аказаньне сэксуальных паслугаў пастаяльцам і наведнікам. Сярод крытэраў, паводле якіх вызначаецца пераможца, — наяўнасьць літаратуры пра вэнэрычныя захворваньні і разнастайнасьць якасных кантрацэптываў. Ідэя сустрэла поўную падтрымку ў кіраўніцтва бішкецкіх гатэляў, саўнаў і "масажных" салёнаў. Сёлета ляўрэатам стаў адзін з гатэльных комплексаў, размешчаных у цэнтры кіргіскай сталіцы.

**А.М.**

# й новазэляндцы

най і Беларусяй, мае быць гермэтычна зачыненай". Зგаджаецца з гэтым і "*Le Figaro*".

Але ня ўсім падабаецца ідэя "нябачнага муру". Брытанская "*Financial Times*" піша, што варта прапанаваць Беларусі, Украіне й Турэччыне адмысловае асацыяванае сяброўства ў ЭЗ.

Данія, што цяпер старшынюе ў Зьвязе, прапануе прыняць новую стратэгію адносінаў зь Беларусяй, Малдовай і Украінаю. Шэф МЗС Даніі Пэр Стыг Мэлер абвесьціў: "Мы мусім узьняць гэтыя краіны эканамічна — каб ня мець праблемаў па суседзтве". Гаворка йдзе пра фінансавую дапамогу, "каб там вырас узровень жыцьця, палепшыліся сыстэмы асьветы, інфраструктура, каб эканомікі гэтых краінаў маглі расьці".

Брусэль ня хоча праблемаў зь нелегальнай міграцыяй, злачыннасьцю і кантрабандай з усходу, якія заўжды вынікаюць, калі маеш пад бокам "бедных сваякоў". Такая эўрапейская пазыцыя: супрацоўнічаць з намі, каб ня мець лішняга клопату.

**Сяргей Рак**

**У верасьні Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў правёў апытаньне з мэтай вызначыць стаўленьне беларусаў да Эўразьвязу. Больш за 53% апытаных згодныя прагаласаваць "за" далучэньне да эўрапейскага саюзу, 8% — рашуча "супраць", а астатнія ня бралі б удзелу ў галасаваньні ці ня здолелі адказаць на пытаньне. Мроіць не забароніш, васпане, скажа інфармаваны й дасьведчаны чытач. Але менш чым праз два гады мы межавацьмем з Эўразьвязам. Лукашэнка ня вечны, а гэтае суседзтва нам дадзена калі не назаўжды, дык надоўга.**



Туркі-кіпрыёты таксама хочуць у Эўразьвяз

# Шостае пашырэньне Эўропы

### Галоўная страва на стале

Апантаны эўфарыяй ад хуткае інтэграцыі ў Зьвяз, удзельнік прэс-канфэрэнцыі дэпутатаў польскага Сойму ў Эўрапарлямэнце, распавядаючы пра стравы, якія падаваліся на адным з прыёмаў, зазначыў, што дэсэрты былі вугорскія й кіпрскія, але галоўныя стравы — польскія! Ды раптам дадаў: "Так, панове, мы, палякі, — галоўная страва на стале ЭЗ"! Гэтае нечаканае параўнаньне вельмі слушнае. Зь дзесяці краінаў, якія павінны далучыцца да Зьвязу ў 2004 г., Польшча зь ейнымі 50 парлямэнтарамі будзе самым уплывовым гульцом, роўным Гішпаніі. Наступнай па значнасьці сярод "нэафітаў" стане Румынія, што ўвойдзе ў Зьвяз у 2007-м (33 дэпутаты).

Патасу ў прамовах польскіх палітыкаў ды газэтных артыкулах цяпер паменела. Палякаў больш цікавяць надзённыя пытаньні (фінансавыя, праўныя ўмовы далучэньня да ЭЗ, квоты на вытворчасьць прадукцыі), цяжкія перамовы на заключным этапе інтэграцыі. Цікавіць таксама, ці мусяць новыя сябры плаціць адразу 100% сяброўскіх складак або атрымаюць у першыя гады палёгку. Прадстаўнікі нацыянальных элітаў краін-кандыдатак пабойваюцца "апынуцца ў цені", таму ўзважваюць кожную драбніцу ў пагадненьнях з Брусэлем.

### "За" і "супраць"

Паводле зьвестак "Эўрабаромэтру" (сацыялягічнай службы ЭЗ), 61% грамадзянаў трынаццаці краінаў-кандыдатак (разам з Турэччынай) лічаць, што "Эўразьвяз — гэта добра". У тых гаспадарствах, якія сутыкнуліся з эканамічнымі цяжкасьцямі на шляху да Эўропы, абсалютная бальшыня кажа ЭЗ "так" (78% у Румыніі, 68% у Баўгарыі, 65% у Турэччыне). Грамадзяне ж тых дзяржаваў, што больш-менш адпавядаюць "эўрастандартам", зь меншай ахвотай ідуць у ЭЗ (Польшча — 52%, Літва — 48%, Чэхія — 43%, Эстонія — 32%).

### Турэцкае пытаньне

"Далучэньне Турэччыны — канец Эўропы?" — артыкулы з такім загалоўкам зьявіліся на пачатку лістапада ў заходніх выданьнях. Там камэнтавалася выказваньне Валеры Жыскар д'Эстэна (былога прэзыдэнта Францыі й старшыні групы па падрыхтоўцы Эўраканстытуцыі) пра тое, што Турэччыне "няма месца ў пашыраным Зьвязе". Бо 95% насельнікаў краіны і яе сталіца знаходзяцца па-за Эўропай.

Эўракамісія — выканаўчы й часткова заканадаўчы орган — зазначае, што нацы, якія маюць далучыцца да новай панэўрапейскай супольнасьці, павінны адпавядаць т.зв. "капэнгагенскім крытэрам" — дасягнуць пэўных эканамічных паказьнікаў ды забясьпечыць дэмакратычныя свабоды для грамадзянаў. "Эўракраты" падкрэсьліваюць у кожным дакладзе, што Турэччына дасягнула прагрэсу (напрыклад, скасавала сьмяротную кару), але пытаньне з курдзкай меншасьцю застаецца. Дый існуе небясьпека масавае некантраляванае міграцыі туркаў у іншыя дзяржавы Зьвязу пасьля далучэньня краіны да ЭЗ. З іншага боку, эўрапейская эліта баіцца, што расчараваныя адмовай Захаду турэцкія выбаршчыкі галасавацьмуць за "ісламскіх экстрэмістаў". Таму гэтую краіну, якая падала заяву на далучэньне да ЭЗ яшчэ ў 1987 г., трымаюць у "перадпакоі" ЭЗ, прапускаючы без чаргі шчасьлівейшых канкурэнтаў.

Між тым, з канфэсійнымі разыходжаньнямі Зьвяз сутыкаўся і раней. У Эўрапейскую супольнасьць вугалю й сталі, створаную ў 1951 г., спачатку ўваходзілі шэсьць дзяржаваў зь пераважна каталіцкім насельніцтвам. Такое "праватыканскае" аб'яднаньне выклікала недавер у пратэстанцкіх Вялікай Брытаніі й Даніі. Яны далучыліся да гэтай зоны вольнага гандлю толькі ў 1973 г. Потым у супольнасьць увайшла праваслаўная Грэцыя (1981). Таму становішча Турцыі не безнадзейнае, тым больш што турэцкая меншасьць Кіпру ўжо ў 2004 г. атрымае "эўрапрапіску" разам з грэкамі-кіпрыётамі.

### Дзе край Эўропы

Калі я знаёмлюся з заходнімі эўрапэйцамі, яны часьцяком пытаюцца: "Ваша краіна — кандыдат на ўступ да Эўропы"? У іхным разуменьні Эўропа атаясамліваецца са Зьвязам. Наш улюбёны лёзунг "Беларусь — цэнтар Эўропы" можа справакаваць там усьмешкі на тварах. У заходніх мэдыях тэрміны "Эўропа Пятнаццаці" ці проста "Эўропа" сталіся стопрацэнтовымі адпаведнікамі Зьвязу. Пашырэньне на ўсход дазваляе ЭЗ амаль легітымізаваць манаполію на ўжываньне гэтага брэнду.

А што станецца з намі, Украінай, Балканамі? Ня трэба быць Настрадамусам, каб прадбачыць: калі адзін неўраўнаважаны палітык нечакана пачынае выказваць Брусэлю знакі прыхільнасьці, гэта не азначае, што ЭЗ імгненна папаўзе да яго на каленях, каб толькі не дапусьціць адкрыцьця "неабсяжнай" беларускай мяжы для нелегальных уцекачоў ды наркадылераў. Пасьля далучэньня новых чальцоў Зьвяз будзе межаваць ня толькі зь Беларусяй, але й з "эўрапейскім парахавым склепам" — Балканамі. Дый мігранты для ЭЗ ня новая праблема: цэлыя караблі іх кіруюцца з Паўночнай Афрыкі й Альбаніі. Таму Лукашэнкавы пагрозы справакуюць хіба ўзмацненьне візавага кантролю ў дачыненьні да простых беларускіх грамадзянаў.

Украінская мадэль эўрапейскай палітыкі — "і вашым і нашым" — таксама засьведчыла сваю неэфэктыўнасьць. Сёньня Кіеў нічога ня робіць, каб справай пацьвердзіць уласныя заявы пра далучэньне да эўрапейскіх інстытуцый. Украінскае кіраўніцтва ўпэўнена крочыць апрабаванай "бацькам" сьцежкай палітычнае ізаляцыі — толькі зь некаторым спазьненьнем. На апошнім саміце *NATO* ў Празе Кучму далі гэта адчуць. Калі б удзельнікаў саміту пасадзілі згодна з ангельскім альфабэтам, побач з украінскім прэзыдэнтам, якога падазраюць у незаконным гандлі зброяй з "восьсю зла", мусіў бы апынуцца Тоні Блэр (*United Kindom* — афіцыйная назва Вялікай Брытаніі — і *Ukraine* пачынаюцца з аднае літары). Таму выпраўна было карыстацца францускім правапісам, дзе Аб'яднанае Каралеўстваператвараецца ў Royaume Uni. І Кучма апынуўся побач з туркамі.

### ЭЗ — не санаторый

Нягледзячы на прынцып салідарнасьці паміж сябрамі ЭЗ, на т.зв. "структурныя фонды", зь якіх выдаткоўваюцца сродкі на перабудову эканомік бедных рэгіёнаў (Валіі, Сыцыліі, Андалюсіі й інш.), ЭЗ — не дабрачынная арганізацыя. Польшча, Вугоршчына прыклалі вялізныя высілкі, каб перабудаваць свае нацыянальныя эканомікі. А рэформы — гэта заўжды трагедыя для пэўных сацыяльных групаў. Прыгадаем, як актыўна пратэставалі францускія сяляне супраць далучэньня Гішпаніі да ЭЗ. Але жаданьне дасягнуць стандартаў якасьці загартоўвае й робіць вытворцаў больш упартымі й упэўненымі, а палітыкаў вучыць бараніць свае нацыянальныя інтарэсы, настойліва патрабаваць ад Брусэлю законнае квоты на вытворчасьць пэўнай прадукцыі. Вось і польскія вяскоўцы, першыя "ахвяры" блізкага ўжо аб'яднаньня, якія лямантавалі былі пра страты й банкруцтва, не знаходзяць рэальнай альтэрнатывы Эўропе.

Дапамога новым чальцам ня зробіцца непамерным цяжарам для заходнеэўрапейскіх падаткаплатнікаў. Так, калі ў 2001 г. кожны сябра ЭЗ адлічыў у агульную скарбонку 1,08% свайго ВУП, дык у 2002—06 г. гэты паказьнік не павінен перавысіць 1,27%. Да таго ж Захад вельмі зацікаўлены ў стварэньні агульнага рынку на паўмільярда спажыўцоў з агульнымі для ўсіх суб'ектаў гаспадараньня праўнымі правіламі гульні.

### Без вэртыкаляў

Краіна, што ўваходзіць у Эўразьвяз, мусіць адмовіцца ад жорсткай цэнтралізацыі ўлады, прыняўшы прынцып "субсыдыярнасьці", калі кожны аўтаномны ўзровень улады, органы якой абіраюцца, а не прызначаюцца, мае ў сваёй выключнай кампэтэнцыі тыя паўнамоцтвы, якія ён эфэктыўна выкарыстоўвае з найбольшай карысьцю для грамадзян. Нам недастаткова будзе зьмяніць шыльды "вобласьць" і "раён" на "край" ці "павет". Трэба ліквідаваць "вэртыкаль", якая гатовая пасьля тэлефанаваньня "зьверху" сказаць "Ёсьць!" і бяздумна выканаць любы загад. Краіны-кандыдаткі прыклалі вялікія намаганьні, каб рэфармаваць і дэмакратызаваць мясцовае самакіраваньне.

### Бабілёнская вежа

Захад рыхтуецца да інтэграцыі паволі, з усёй сваёй спрактыкаванасьцю й рацыяналізмам. У часе праектаваньня залі паседжаньняў новага будынку парляманту ў Страсбурзе былі прадугледжаныя фатэлі для новых парлямэнтароў. Загадзя пачалі рыхтаваць перакладчыкаў з краінаў-кандыдатак. Усё ж такі 12 новых працоўных моваў у дадатак да 11 наяўных. Бабілёнская вежа! Пэсымісты, баючыся зьніжэньня якасьці перакладаў, прапаноўвалі абрацы дзьве працоўныя мовы. Але кіраўніцтва ЭЗ не захацела правакаваць спрэчкі наконт таго, чыя мова больш людзкая і панская. Тое самае і з выбарам сталіцы. Каб не пакрыўдзіць нейкую зь вялікіх дзяржаў, установы ЭЗ месьцяцца ў Брусэлі, Страсбурзе й Люксэмбурзе. Дэпутаты й чыноўнікі змушаныя "вандраваць" з аднае сталіцы ў другую, а за імі — мэталёвыя скрыні з паперамі. Але кансэнсус каштоўнейшы за выдаткі.

Кампраміс, замірэньне — галоўныя здабыткі Зьвязу. Яны робяць немагчымымі новыя мілітарныя канфлікты нават паміж такімі "спрадвечнымі" ворагамі, як Францыя й Нямеччына.

**Зьміцер Хадакоў, Страсбург**


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Ідэя ўступленьня Беларусі ў Эўразьвяз вельмі папулярная сярод моладзі

# Качаран разьлічвае на перамогу

**У Арменіі 19 лютага адбудуцца прэзыдэнцкія выбары. Ужо зарэгістраваныя 16 прэтэндэнтаў на гэтую пасаду. Асноўная барацьба разгорнецца між цяперашнім прэзыдэнтам Робэртам Качаранам і двума кандыдатамі ад прарасейскае і посткамуністычнае апазыцыі.**



Робэрт Качаран кіруе ня самай заможнай краінай

Перадвыбарчым штабам Качарана кіруе міністар абароны і па сумяшчальніцтве сакратар Рады бясьпекі Сэрж Саркісян. Дзейнага прэзыдэнта падтрымлівае "Дашнакцуцюн" (адна з найстарэйшых нацыянальных партыяў краіны) і Рэспубліканская партыя, якую ачольвае прэм'ер-міністар Андранік Маркаран.

"Партыя ўлады" шукае сабе падтрымкі як на Захадзе, так і ў Расеі. Амэрыканцы лічаць Р.Качарана палітыкам, здольным вырашыць нагорнакарабахскі канфлікт. Расейскі "вэктар" у падтрымцы прэзыдэнта павінен забясьпечыць С.Саркісян, які зьбіраецца найбліжэйшым часам у Маскву — будзе рыхтаваць візыт свайго патрона ў Расею.

Апазыцыя мае супрацьпаставіць прэзыдэнту лідэра партыі "Права і яднаньне" Арташэса Гегамяна і лідэра Народнай партыі Сьцяпана Дэмірчана (сына Карэна Дэмірчана — лідэра кампартыі ў савецкія часы і сьпікера Нацыянальнага сходу ў часы незалежнасьці, які загінуў падчас тэракту 27 кастрычніка 1999 г.). А.Гегамян лічыцца прарасейскім палітыкам і можа супрацьстаяць прэзыдэнту на гэтым полі. Праўда, калі апазыцыйныя кандыдаты найбліжэйшым часам не ўкладуць паміж сабой пагадненьне аб супрацоўніцтве, яны толькі расколюць пратэставы электарат. За кожнага зь іх гатовыя сёньня галасаваць па 10% выбарцаў. Рэйтынг Р.Качарана складае на сёньня 26%.

У передвыбарнай гонцы ўдзельнічае і грамадзянін ЗША, былы міністар замежных справаў Арменіі Рафі Аванесян. Ён прэтэндуе на ролю празаходняй альтэрнатывы Р.Качарану. Аднак яму, як і астатнім 12-ці не згаданым тут кандыдатам на прэзыдэнцкую пасаду, чые групы падтрымкі пачалі збор подпісаў (трэба сабраць ня менш за 35 тыс.), гатовы сёньня аддаць свае галасы ня больш за 2% выбарцаў.

Вынікі сацыялягічных апытаньняў сьведчаць, што 5% армянаў зьбіраюцца прагаласаваць супраць усіх кандыдатаў, а яшчэ 27% пакуль ня вызначыліся з выбарам.

Былы прэзыдэнт краіны Лявон Тэр-Петрасян ад удзелу ў прэзыдэнцкай кампаніі адмовіўся. Не перашкаджаць Качарану яго ўгаварыў Барыс Ельцын, які спэцыяльна дзеля гэтага езьдзіў у Ерэван.

**А.Ш.**

# Дыпляматыя трубаправодаў

## *Чачэнскае скрыжаваньне вялікай палітыкі*

**Дарэмна Расея спрабавала выкарыстаць захоп тэатру на Дуброўцы, каб упісаць чачэнскую кампанію ў кантэкст барацьбы Захаду зь міжнародным тэрарызмам. Дж.Буш пацьвердзіў нязьменнасьць пазыцыі ЗША: дасягнуць міру ў Чачэніі можна толькі праз перамовы. Мінюст Даніі адмовіў Расеі ў экстрадыцыі Ахмеда Закаева — афіцыйнага прадстаўніка прэзыдэнта Чачэніі Аслана Масхадава. Абвінавачаньні Расеі ў генацыдзе чачэнскага народу, якія пэрыядычна агучвае ПАСЭ, тлумачацца ня толькі павагаю Захаду да правоў чалавека. "Чачэнскі вузел" — частка праблемы каўкаскага рэгіёну, дзе Злучаныя Штаты і Эўразьвяз маюць свае стратэгічныя інтарэсы.**




Нафтавыя вышкі каля Баку

Адзін з прыярытэтаў замежнай палітыкі ЗША — пракладка новых маршрутаў для транспартаваньня энэрганосьбітаў зь месцаў іх здабычы да спажыўцоў. Выхад да новых вялікіх радовішчаў стварае канкурэнцыю паміж краінамі, уплывае на кан'юнктуру цэнаў на энэрганосьбіты. Але нафта — гэта ня толькі эканамічны рэсурс. Будаваньне трубаправодаў пры ўдзеле амэрыканскіх інвэстараў, фактычна пад амэрыканскім дыпляматычным прыкрыцьцём, дазваляе Вашынгтону вырашаць і стратэгічныя палітычныя задачы. Увесь ланцуг "краіны здабычы — краіны транзыту — краіны-спажыўцы" робіцца сфэрай інтарэсаў і ўплыву ЗША.

### Пастка для Баку і Астаны

Уласна чачэнская нафта ў разьлік не прымаецца — колькі там яе ёсьць. **Ічкерыя мае стратэгічнае значэньне, бо месьціцца на шляху транзыту вялікай каспійскай нафты.** Паводле ацэнак на 2001 г., нафтавыя запасы Казахстану складаюць 30 млрд. т. Гэта больш, чым у Кувэйце (15 млрд. т), і нават больш, чым у Саудаўскай Арабіі (27 млрд. т). Цяпер Казахстан здабывае 30 млн. т нафты ў год, ад 2005 г. Астана пляную здабываць 60 млн. т, ад 2010-га — 150 млн. т. Пры канцы 90-х вярнуў згубленыя пазыцыі на нафтавым рынку Азэрбайджан. Дзякуючы запасам буйных радовішчаў "Азеры", "Чыраг" і "Гюнэшлі" Баку можа экспартаваць 50 млн. т нафты штогод цягам 15 гадоў.

Зьяўленьне на сусьветным нафтавым рынку гэтых краінаў Расеі не даспадобы. І Крэмль, зразумеўшы, што пазьбегнуць "непрыемнасьці" немагчыма, вырашыў кантраляваць казахскаазэрбайджанскі нафтавы струмень. У 1997 г. было падпісанае пагадненьне аб будоўлі трубаправоду Тэнгіз—Новарасійск. Казахстан атрымаў магчымасьць праганяць праз расейскую тэрыторыю 15 млн. т нафты штогод — згодна з усталяванай двухбаковым пагадненьнем квотай. Баку, таксама згодна з квотай, мог пампаваць 2 млн. т. "Транзытныя" грошы ня мелі прынцыповае вартасьці для Крамля — на першым пляне была геапалітыка. Транзыт праз расейскую тэрыторыю пэўнай колькасьці казахскай і азэрбайджанскай нафты адкрыў перад Масквой магчымасьць вызначаць пакупнікоў. Для Крамля было важна, каб расейскай нафце на рынках Украіны, Беларусі й Малдовы не было альтэрнатывы. Пакупнікамі нават абмежаваная квотамі казахскай і азэрбайджанскай нафты мусілі быць краіны "далёкага замежжа". А той факт, што Астана і Баку, дзякуючы супрацоўніцтву з Масквой, сталі атрымлівацьнафтадаляры, зрабіўся падставай для замежнапалітычнай гульні Крамля.

Расейскае кіраўніцтва заклікала казахскі й азэрбайджанскі істэблішмэнт да актыўнага супрацоўніцтва. Маўляў, гэтыя дывідэнды — толькі "першая ластаўка", Расея разумее зацікаўленасьць Астаны і Баку ў экспарце сваіх энэрганосьбітаў. Гаварылася нават пра магчымасьць прыцягненьня замежных інвэстыцыяў для будоўлі дадатковых трубаправодаў.

### У абыход Расеі

У 1999 г., калі аддзелы Шаміля Басаева і Хатаба ўварваліся ў Дагестан, зрабілася ясна: нават калі б Масква і зьбіралася будаваць тыя трубаправоды, дык толькі на паперы — заходнія інвэстары не далі б грошай пад такі рызыкоўны праект, а сама Расея ня мае дастатковых сродкаў. Чачэнскі ўдар па Дагестане разьвеяў прамаскоўскія ілюзіі ў Астане й Баку. У лістападзе 1999 г. на Стамбульскім саміце АБСЭ было вырашана будаваць трубаправод Баку—Тбілісі—Джэйхан. Менавіта па гэтым маршруце, у абыход Расеі, пойдзе на сусьветны рынак каспійская нафта — больш за 50 млн. т штогод.

Галоўныя інвэстары будоўлі — амэрыканскія нафтавыя кампаніі, што ўклалі вялікія грошы ў распрацоўку радовішчаў Казахстану і Азэрбайджану. Вашынгтон засьведчыў каспійскім краінам сур'ёзнасьць сваіх намераў. Акрамя асноўнага экспартнага трубаправоду (Баку—Джэйхан) была запляванава будоўля дадатковага — Баку—Эрзурум. Акрамя таго, ЗША і Вялікабрытанія выказалі жаданьне ўкласьці грошы ў пашырэньне экспартных магчымасьцяў чыгуначнага маршруту перавозкі нафты з Баку да грузінскага порту Супса, а таксама ў разьвіцьцё інфраструктуры апошняга.

Вялікі рэзананс у Крамлі выклікалі перамовы прадстаўнікоў Дзяржээпартамэнту ЗША з украінскім кіраўніцтвам. Украіна з задавальненьнем далучылася да праекту Баку—Джэйхан. Пэўная частка каспійскай нафты трапіць на ўкраінскі рынак.

### Бітва за Грузію

Другая чачэнская кампанія, распачатая Масквой пры канцы 1999 г., зрабіла непрывабным расейскі транзытны маршрут. Блізкасьць выбухованебясьпечнай Чачэніі паставіла крыж на ўсіх размовах аб пашырэньні "нафтавага" супрацоўніцтва Расеі з прыкаспійскімі краінамі СНД. Апошнія зрабілі стаўку на Захад і перш за ўсё — на ЗША. З гэтага моманту Крэмль усялякнамагаецца дэстабілізаваць унутрыпалітычную сытуацыю ў краіне, тэрыторыя якой выконвае ролю корка ў каспійскай нафтагазавай пасудзіне, — у Грузіі. На ейную тэрыторыю расейскія войскі выцiскалі чачэнскія фармаваньні, тым самым на поўначы краіны ствараўся пояс зь непадкантрольных Тбілісі тэрыторыяў. На словах дэкляруючы павагу да тэрытарыяльнага адзінства Грузіі, Масква стала на шлях фактычнай анэксіі Абхазіі і Паўднёвай Асеціі — больш за 60% насельніцтва гэтых рэгіёнаў атрымалі расейскае грамадзянства.

Працяг на старонцы 11.

# Хто кіруе Гарадзеншчынай

**Сапраўдную кадравую ліхаманку зьведала ў апошнія гады Гарадзеншчына. Пасьля сьмерці ў лютым 2001 г. кіраўніка вобласьці Аляксандра Дубка ягоную пасаду заняў Уладзімер Саўчанка, што ад 1999 г. быў першым намесьнікам старшыні аблвыканкаму. Новаму кіраўніку пашанцавала. Яму засталася перадавая па многіх паказьніках вобласьць і насельніцтва, выхаванае працоўнай этыкай каталіцызму. Засталося малое — калі не ўзыходзіць на новыя прыступкі, дык хоць бы ўтрымаць ранейшыя вышыні.**

Галоўнае дасягненьне Саўчанкавага кіраваньня на Гарадзеншчыне за год — вынікі "бітвы за ўраджай". Ураджайнасьць на Гарадзеншчыне была самая высокая ў краіне, але па валавым паказьніку атрыманага збожжа рэгіён упершыню саступіў суседняй Менскай вобласьці. Не забудземся, што ў Менскай вобласьці куды большая тэрыторыя.

## Усходнікі абганяюць

У лютым 2002 г. першым намесьнікам старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму — старшынём камітэту па сельскай гаспадарцы і харчаваньні быў прызначаны Іван Данчанка. Клопату ў яго — цэлы абярэмак. Па велічыні сярэдняга надою на кароў за 9 месяцаў 2002 г. "у патыліцу дыхае" тая ж Меншчына (2309 кг супраць 2368 на Гарадзеншчыне). У сьвінагадоўлі па паказьніках за верасень гарадзенцаў апярэдзілі Гомельская і Віцебская вобласьці. 114 прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі (у вобласьці іх звыш 300) у крызысным стане.

## На складах завозна

Таксама зь лютага 2002 г. намесьнікам старшыні аблвыканкаму працуе Аляксандар Радзевіч. Кіруе прамысловым комплексам, сфэрай гандлёвага і побытавага абслугоўваньня, сыстэмай цэнаўтварэньня, разьвіцьцём прадпрымальніцтва.

Аб'ём прамысловай вытворчасьці ў супастаўных цэнах, у параўнаньні са студзенем—верасьнем 2001 г., сёлета павялічыўся толькі на 0,1%. І гэта паводле кульгавае афіцыйнае статыстыкі. Прамысловыя прадпрыемствы абласнога цэнтру, Дзятлаўскага, Астравецкага і Слонімскага раёнаў не дасягнулі аб'ёмаў вытворчасьці аналягічнага пэрыяду мінулага году. На 1 кастрычніка на складах засталося гатовай прадукцыі на 90,7 млрд. рублёў, што складае 64% у сярэднямесячным аб'ёме вытворчасьці. На адпаведную дату 2001 г. гэты паказьнік складаў 48,2%.



Гарадзенскі "губэрнатар" Уладзімер Саўчанка (справа) добра сябе адчувае за плячыма прэм'ера Генадзя Навіцкага (у цэнтры).

## Трэба непапулярныя рэформы

Кадры ў нас па адукацыі і досьведзе далёка ня горшыя. Але эканамічная сытуацыя ў краіне такая, што нават геараічным рыўком намесьніка старшыні аблвыканкаму справу не асіліш. Неабходныя кардынальныя і рашучыя, але непапулярныя ў народзе рэформы. На такі мужны крок трэба асьмеліцца найвышэйшым кіраўнікам краіны. А гэта праблематычна, бо можна страціць падтрымку выбарцаў у сакавіку 2003 г. Палітычны разьлік не саступае дарогі эканамічнаму прагматызму.

**Антон Лабовіч, Горадня**

**Саўчанка Ўладзімер** нарадзіўся ў в.Фралоўка Касьцюковіцкага р-ну Магілёўскай вобл. Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спэцыяльнасьці "інжынэр-землеўпарадкавальнік". З 1974 працаваў дырэктарам Брасаўскага сельгастэхнікуму Бранскай вобл. (Расея). Быў прарабам, начальнікам Круглянскага ДРБУ-214, старшынём калгасу, пасьля — старшынём Круглянскага райвыканкаму, намесьнікам старшыні Магілёўскага аблвыканкаму (1996–2000), першым намесьнікам старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму (1999–2001).

**Данчанка Іван** нарадзіўся ў Скідзелі Гарадзенскага р-ну. Скончыў Гарадзенскі сельгасінстытут і Акадэмію кіраваньня пры прэзыдэнце. Зоаінжынэр, мэнэджэр-эканаміст. Працаваў заатэхнікам у Ваўкавыскім р-не, пасьля — ва ўпраўленьні сельскай гаспадаркі Ваўкавыскага райвыканкаму. Кіраваў Ваўкавыскім саўгасам-тэхнікумам (1990–97). Працаваў першым намесьнікам старшыні — начальнікам упраўленьня сельскай гаспадаркі Ваўкавыскага райвыканкаму, старшынём райвыканкаму (1997–2001). З 2001 г. — першы намесьнік старшыні аблвыканкаму.

**Радзевіч Аляксандар** нарадзіўся ў в.Пагарэльшчына Смургонскага р-ну. Скончыў Менскі радыётэхнічны інстытут. Інжынэр-канструктар-тэхноляг радыёапаратуры. Працаваў інжынэрам на менскім "Інтэграле", начальнікам аддзелу тэхнічнага забесьпячэньня сродкаў вылічальнай тэхнікі Смургонскага заводу аптычнага станкабудаваньня. Ад 1998 да лютага 2002 г. — генэральны дырэктар в/а "Смургонскі завод аптычнага станкабудаваньня". З 2001 г. — намесьнік старшыні аблвыканкаму.

## Узьнёслае і зямное

**Францішканскаму касьцёлу ў Горадні жыльлёва-камунальная служба пагражае адключыць ацяпленьне за нясвоечасовую аплату паслугаў.**

**Зьміцер Чарнель, Горадня**

## Vulica pieršaha prezydenta

**Vulicaj "Pieršaha prezydenta Biełarusi" prapanuje nazvać ciapierašniuju vulicu "50 hod VŁKSM" baranavickaje pradpryjemstva "Harhaz".** Usio heta — nie ad vialikaj lubovi hazavikoŭ da Łukašenki. Jakraz kala ich pradpryjemstva vulicaj niemahčyma jeździć. Šmat hadoŭ "Harhaz" źviartaŭsia da haradzkich uładaŭ z prapanovaju dobraŭparadkavać "50 hod VŁKSM". Ale adkazu nie pačuŭ.

## Harełačny rejd

**Tolki za adzin tydzień baranavickija milicyjanty vyjavili 214 kvateraŭ, dzie honiać samahonku.** Źniščana 400 litraŭ hatovaha praduktu j 1600 litraŭ brahi (u adnoj kvatery — adrazu 1300 litraŭ).

## Try apošnija

**Tolki ŭ troch haspadarkach Baranaviččyny va ŭsich pamiaškańniach haryć śviatło.** Va ŭsich astatnich kałhasach elektryčnaść častkova adklučana.

**Ruslan Raviaka, Baranavičy**

## Была школа і няма

**У Крывічох, што на Мядзельшчыне, у тую сераду згарэла музычная школа.** Пажар пачаўся каля 22-й гадзіны, калі ў будынку нікога не было. Агонь зьнішчыў усё дазваньня: баяны, акардэоны, піяніна, раяль. Пяць пажарных машынаў не далі рады. Спачатку прыгасілі полымя, але вада скончылася, а ўсе навакольныя калёнкі былі пазамярзаўшы. Пакуль езьдзілі па ваду, агонь разгарэўся наноў. Ад школы засталося адно пажарышча з гарою абпаленае цэглы. Дзеці будуць вучыцца ў іншым памяшканьні. Пакуль няясна, чаму будынак загарэўся. Гэта высьвятляюць менскія спэцыялісты з МНС.

**Вацлаў Зьвяруга, Мядзел**

## Моўныя курсы

**Штонядзелі ў віцебскай бібліятэцы імя Караткевіча праходзяць заняткі курсаў беларускай мовы, якімі на грамадзкіх пачатках кіруе Соф'я Шымковіч.** Арганізаваньня яны Віцебскай радай ТБМ. На курсах займаюцца дарослыя людзі, усяго 10 чалавек, а першымі прыйшлі вучыць мову перасяленцы зь Літвы.

**Міхал Чарвінскі, Віцебск**

## Скаціна можа спаць спакойна

**Аршанскі аддзел па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю "накрыў" банду, што займалася крадзяжамі быдла з калгасных ды саўгасных падворкаў Віцебшчыны.** Месца збору нарабаванага знаходзілася ў Воршы, у арандаваным доме непадалёк ад гарадзкога рынку. Там тушы разьбіралі, а пасьля перапраўлялі фургонамі ў Расею. Банду сабраў і ўзначаліў азэрбайджанец, памагатымі былі два беспрацоўныя аршанцы. Злачынцаў затрымалі ў часе крадзяжу на кароўніку вёскі Старое Хобрава.

**Віктар Лютынскі, Ворша**

## Няясны гімн

**"Паважаная рэдакцыя! Калі можна, надрукуйце ў вашай газэце новы гімн Рэспублікі Беларусі, бо па радыё нічога нельга разабраць.** Загадзя ўдзячны вам пастаянны падпісчык Сухарчук Алег, в.Антонаўка".

**"Аршанская газета"**

## Патрыётам — зьніжкі

**Днямі нейкі бээнэфавец з Шацілак, хочучы купіць цыгарэт, спыніў сваю машыну ў неналежным месцы і скоранька пайшоў у кіёск.** Але пільны наш міліцыянт ня спаў у шапку і пасьля вяртаньня мужыка да машыны ветліва прапанаваў яму заплаціць штраф. Даведаўшыся, што трэба аддаць каля 5000 рублёў, мужык памацаў па кішэнях і сказаў, што з сабою такіх грошай ня мае. Тады міліцыянт спытаў, дзе працуе мужык. Той сказаў, што ў БНФ. "А што гэта такое?" — спытаў міліцыянт. "А гэта партыя, якая змагаецца супраць Лукашэнкі". — "Тады давай паўтары тысячы", — прамовіў міліцыянт. На тым і сышліся.

## Ліса дзябнула

**Падчас прыбіраньня буракоў да Друзіка Міхала падышла ліса.** Той яе адагнаў, але яна падышла зноў ды здолела ўкусіць Міхайлу за руку. Такія паводзіны жывёліны яўна ненармальныя. Даявлося зьвярнуцца да лекараў.

## Вакол бандыты

**13 кастрычніка ў Вялікім Бары бандыты абрабавалі хату Насты Пось.** Увечары яны праз акно ў сенцах залезьлі ў хату, заперлі жанчыну ў катушок і падчысьцілі ўсё: муку, крупы, 50 хустачак, дыванкі са сьцен. Выпусьціўшы жанчыну, яе папярэдзілі, што калі заявіць у міліцыю, то іх мо і зловяць, але прыедуць другія і спаляць. (Хата Насты канцавая.) Бароўцы напужаныя здарэньнем і ня ведаюць, як даць рады такому бандытызму.

**Мікола Бусел, Дуброва**

## Абрабавалі "Хасэд Барух"

**У Магілёве працягваюць рабаваць габрэйскія арганізацыі. Трэцяе па ліку рабаваньне адбылося ў ноч з 10 на 11 сьнежня.** Пацярпела сховішча дабрачыннай арганізацыі "Хасэд Барух", якая разьмяркоўвае гуманітарную дапамогу сярод габрэйскіх малазабясьпечаных сем'яў. Сьледчыя лічаць, што злачынцы ўчынілі бамжы: ня здолеўшы вывалачы з памяшканьня цяжкія пакункі, з якіх збольшага былі харчы, зладзеі часталіся на месцы.

**Алесь Асіпцоў, Магілёў**

## Недаплацілі за кроў

**Ад пачатку году 275 бялыніцкіх донараў здалі 110 літраў крыві.** За гэта райбольніца павінна заплаціць ім агулам 5483 тыс. рублёў. Але выплачана толькі 4.493.400 рублёў.

**Базыль Ліцьвіновіч, Бялынічы**

# Маньяк ці сэкта

**Трупы некалькіх жанчын, забітых з асаблівай жорсткасьцю, знойдзены каля Менску ў канцы лістапада — сьнежні. Паводле зьвестак МУС Беларусі, некалькі трупаў былі расчлянёныя, адзін спалены.**

Таксама паведамляецца пра трупы жанчын 1980 і 1983 г.н., знойдзеныя каля мястэчка Зялёнае і гораду Чэрвень Менскай вобласьці.

Крыніца агенцтва "Інтэрфакс" у МУС адзначыла: ёсьць падставы меркаваць, што ўсе забітыя жанчыны — прастытуткі. Многія зь іх былі знойдзеныя каля магілёўскай шашы, вядомага месца збору "начных мятлушак". Аднак афіцыйныя асобы беларускага МУС абвяргаюць гэтую інфармацыю і кажуць, што ўсе знойдзеныя трупы апазнаныя і належаць жанчынам рознага сацыяльнага паходжаньня ды роду заняткаў. Паводле іншай вэрсіі, да забойстваў прыклалі руку прадстаўнікі дэструктыўных сэктаў. Аднак у Цэнтры па інфармацыі і грамадзкіх сувязях КДБ абверглі і гэтую інфармацыю.

Старшы памочнік пракурора Менскай вобласьці Аляксандар Якаўлеў зазначыў, што пакуль адзіны аб'ядноўчы момант ва ўсіх злачынствах — месца забойства: Маладачанскі кірунак, а сказаць, ці аб'ядналы між сабой гэтыя злачынствы, пакуль цяжка.

**А.Ш.**

**У сьнежні 1942 г. у Менску бясьследна зьнік ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Ён быў затрыманы супрацоўнікамі СД і вывезены ў невядомым кірунку. Яшчэ нейкі час была слабая надзея, што а.Вінцэнт жывы і знаходзіцца ў турме СД, пакуль не высьветлілася, што Гадлеўскі расстраляны. Амаль 60 гадоў заставаліся невядомыя абставіны ягонай гібелі, і толькі ў 2001 г. гэтая таямніца была прыадкрытая. Сьвятар, што загінуў пакутніцкай сьмерцю, магчыма, будзе бэатыфікаваны.**


Алесь Цыркуноў. "Вінцэнт Гадлеўскі".

# Ведаў, што ня вернецца

### Сьвятар, палітык, выдавец

Вінцэнт Гадлеўскі... Сьветлая згадка прадвесьня незалежнасьці Беларусі. Ён з тых адраджэнцаў, якіх ідэя дзяржававстварэньня адухаўляла годна рабіць усё, што выпадала на іх змагарніцкі лёс у той гістарычны прабег часу ад пачатку XX ст.

Гадлеўскі быў сябрам Рады БНР, ад вясны 1918-га займаўся душпастырскай дзейнасьцю ў Менску, дамогся вядзеньня набажэнстваў па-беларуску. У 1920—30-я гады жыў у Заходняй Беларусі, быў адным зь лідэраў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі, знаходзячыся ў турэмным зьняволеньні за беларускую справу. Гадлеўскі пераклаў і выдаў "Новы Тэстамэнт" на беларускую мову, а таксама шэраг іншых рэлігійных кніг, шмат друкаваўся, пераважна пад псэўданімамі, у віленскіх беларускіх газэтах і часопісах. У 1930-я ён выдаваў газэту "Беларускі фронт" і стварыў аднайменнае незалежніцкае аб'яднаньне.

### Падпольная барацьба

Зь верасьня 1941 г. Вінцэнт Гадлеўскі працуе галоўным школьным інспэктарам у генэральным камісарыяце "Беларусь". Немцы ўважліва сачылі за беларускім рухам. Спэцслужбы праз сваю агентуру нешта даведаліся пра дзейнасьць беларускага незалежніцкага падпольнага руху. Нацысты імкнуліся знайсьці ягоныя арганізацыйныя цэнтры, якія пакідалі свае "сьляды" ў антыфашыстоўскіх улётках і друках. Аднак выявіць гэтыя цэнтры было немагчыма, бо іх папросту не існавала. Беларуская незалежніцкая партыя (БНП) і іншыя незалежніцкія арганізацыі не былі структураванымі партыямі. Гэта быў ідэйна-палітычны рух за аднаўленьне незалежнасьці Беларусі. Адным зь яго лідэраў быў В.Гадлеўскі.

Напрыканцы лета і ўвосень 1942 г. нямецкія спэцслужбы пачалі наўздагад вынішчаць найбольш пасьлядоўных і адметных прыхільнікаў беларускай нацыянальнай ідэі. Былі арыштаваны і зьнішчаны ксяндзы Глякоўскі, Малец, Глябовіч, экзарх Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Неманцэвіч, пазьней былі забітыя, часам пры "загадкавых абставінах", Юльян Саковіч, Вацлаў Іваноўскі, Адам Дасюкевіч, Францішак Аляхновіч ды інш.

17 сьнежня 1942-га, у гадавіну Ўсебеларускага зьезду 1917 г., у Менску зьбіраецца група беларускіх дзеячоў. У час урачыстай прамовы В.Гадлеўскага раптам гасьне электрычнае сьвятло, і паседжаньне працягваецца пры запаленых сьвечках — пра гэтую акалічнасьць пазьней удзельнікі ўзгадвалі як пра злавесную прыкмету...

### Арышт

А 20-й гадзіне 24 сьнежня 1942 г., напярэдадні каляднай ночы, у менскую кватэру В.Гадлеўскага ўвайшлі начальнік аддзела SSPF (паліцыі бясьпекі і СД) Менску Г.Хойзэр і перакладчык. Яны паведамілі гаспадару, што ён павінен тэрмінова выехаць у Бэрлін, а перад тым завітаць зь імі ў менскую катэдру на пляцы Волі і ў касьцёл Сьв.Сымона і Алены дзеля выкананьня пэўных фармальнасьцяў.

В.Гадлеўскі быў дастаткова дасьведчаны ў дачыненьнях з акупацыйнымі службамі бясьпекі. Напярэдадні ён спрабаваў атрымаць дазвол ад акупацыйных уладаў на выезд у Варшаву па грамадзкіх і сьвятарскіх справах, але яму неаднаразова бяз дай прычыны адмаўлялі. Нечаканую прапанову "паехаць тэрмінова ў Бэрлін" Гадлеўскі ўспрыняў як арышт.

### Разьвітаньне з Ігнатавічусам

У касьцёл Сьв.Сымона і Алены Хойзэр прывёз В.Гадлеўскага, каб той засьведчыў перад тамтэйшым сьвятаром Зянонам Ігнатавічусам, што "добраахвотна" ад'яжджае зь Менску — гэта быў бы адказ і вернікам, заклапочаным зьнікненьнем сьвятара. Аднак кс.Ігнатавічус зь перакладчыкам разумелі, які фінал чакае В.Гадлеўскага. Усё разумеў і ён сам. Але ніхто зь іх ня даў Г.Хойзэру падставаў гэта заўважыць.

Літоўскі сьвятар адразу ўбачыў, што ў паводзінах В.Гадлеўскага "было нешта незвычайнае і што яго добры (з прычыны ад'езду — **аўт.**) настрой рабіў ненатуральнае ўражаньне". На судзе ў 1963 г. у Кобленцы, падчас разгляду крымінальнай справы Г.Хойзэра, было высьветлена, што В.Гадлеўскі "намагаўся не паказаць сваёй боязі, што зь ім нешта здарылася, каб утрымаць ксяндза (Ігнатавічуса — **аўт.**) ад непрадуманага ўчынку, які лёгка мог пашкодзіць і яму самому". Далей адзначалася, што "пры гэтым Гадлеўскі, магчыма, утрымаваў свой паказны, зусім не сапраўдны настрой".

Паміж Гадлеўскім і Ігнатавічусам, у прысутнасьці Хойзэра, адбылася кароткая размова. В.Гадлеўскі сказаў, што павінен ехаць у Нямеччыну. Ігнатавічус пацікавіўся, колькі часу ён будзе адсутнічаць. "Можа, тыдні са два", — сказаў Гадлеўскі. Ён папрасіў літоўскага ксяндза служыць за яго імшу ў касьцёле Найсьвяцейшае Панны Марыі й сказаць людзям, што ён вернецца...

Усе сумневы ў кс.Ігнатавічуса наконт лёсу Гадлеўскага былі зьнятыя, калі яму ўдалося незаўважна для Хойзэра спытаць у перакладчыка, ці сапраўды беларускі сьвятар хутка вернецца. Той выразным жэстам паказаў, што не...

### Стрэл у Благоўшчыне

Каля 21-й ад Чырвонага касьцёлу ад'ехаў легкавік: за рулём быў шэф менскіх турмаў СД і Трасьцянецкага лягеру сьмерці Г.Хойзэр, а ззаду, здавалася б, мірна гутарылі "ні аб чым" Гадлеўскі й перакладчык. Аднак між імі завісла напружанасьць. Перакладчык атрымаў загад ад Хойзэра сачыць за сьвятаром, каб ён "ня выкінуў чагосьці з машыны".

Легкавік мінуў чыгуначны вакзал і накіраваўся да Магілёўскай шашы, якая пачыналася ў той час прыкладна ад тэрыторыі цяперашняга аўтазаводу. Паабапал дарогі быў лес, потым справа за колькі сотняў мэтраў мільганулі яркія агні. Гадлеўскі мусіў ведаць, што гэта Трасьцянецкі лягер, абнесены шасьцю шэрагамі калючага дроту, — усё адмыслова асьветленае электрычнасьцю. Можна здагадвацца, што было ў думках сьвятара, але з выгляду ён заставаўся спакойны і не выказваў трывогі.

Машына павярнула налева і спынілася ў цемры зімовай ночы.

Гэта быў аб'ект нацыстаў — урочышча Благоўшчына, паляна прыкладна 300 на 400 м, абгароджаная калючым дротам, якую ахоўваў спэцыяльны аддзел СС. Аб'ект быў настолькі сакрэтны, што савецкая выведка даведалася пра яго толькі ў ліпені 1944-га. Тут ад вясны 1942 г. да позьняй восені 1943 г. былі забітыя і патаемна пахаваныя ў 34 равах-магілах ня меней як 150 тыс. вязьняў нацысцкіх турмаў, лягераў і гета, а таксама ахвяры гітлераўскага тэрору ў Менску. Цягам доўгіх зімовых месяцаў 1943—44 г. у спробе схаваць сьляды злачынстваў усе пахаваньні былі зруйнаваныя, а трупы спаленыя і зноў тутсама перазахаваныя — у адпаведнасьці са звышсакрэтным загадам Гімлера.

А ў той вечар 24 сьнежня 1942 г. Хойзэр прывёз у Благоўшчыну новую ахвяру. Як сьведчыў у 1963 г. на судзе былы перакладчык СД Р., нацыст загадаў яму заставацца ў машыне, а сам выйшаў са сьвятаром вонкі. Яны адышлі на колькі дзясяткаў крокаў. Шчоўкнуў пісталетны стрэл... У машыну Хойзэр вярнуўся адзін, сеў за руль і ад'ехаў. У гэты час Р. бачыў, як у цемры прабеглі некалькі чалавек: паводле яго меркаваньня, яны "павінны былі прыбраць труп"...

Суд прысяжных у Кобленцы прыйшоў да высновы, што "ў момант злачынства сьвятар Гадлеўскі разумеў, што плянуецца замах на яго жыцьцё", але "да апошняга моманту паводзіў сябе спакойна і стрымана" і "выпрашаў скарыцца перад лёсам". Хойзэр не прызнаў факту забойства ім В.Гадлеўскага, як і шэрагу іншых злачынстваў падчас акупацыі Беларусі, і не назваў тых, хто аддаваў адпаведны загад. Аднак можна здагадвацца, што загад на зьнішчэньне Гадлеўскага прыйшоў з Бэрліну. Суд прызнаў, што "прычыну і падкладку забойства немагчыма вызначыць дакладна: можна толькі здагадвацца, што яго гібель варта разглядаць у сувязі зь яго палітычнай дзейнасьцю ў БНС, якую СД расцэньвала як дзяржаўную здраду". Насамрэч, галоўнай прычынай зьнішчэньня нацыстамі В.Гадлеўскага было яго кіроўнае становішча ў беларускім антыфашыстоўскім Супраціве.

### Увекавечыць памяць сьвятара

Сёньня паўстае патрэба ўвекавечыць памяць Вінцэнта Гадлеўскага. Беларускае каталіцкае духавенства пры ўдзеле Польскай каталіцкай царквы і Польскай дзяржавы, грамадзянінам якой быў Гадлеўскі, маюць падставы і маральны абавязак сказаць сваё слова дзеля ўвекавечаньня памяці сьвятара паводле грамадзянскага чыну і сьвятарскага стану.

**Уладыслаў Завальнюк**,
ксёндз-магістар, пробашч касьцёлу сьв.Сымона і сьв.Алены,
**Яўген Цумараў**,
старшыня ГА "Гісторыка-мэмарыяльны Фонд "Трасьцянец"

дзе варта быць

### Імша па Гадлеўскім

**20 сьнежня а 17-й у касьцёле Сьв.Сымона і Алены пройдзе Сьвятая імша ў 60-я ўгодкі пакутніцкай гібелі ў Трасьцянецкім лягеры** ксяндза-магістра, сябра Рады БНР Вінцэнта Гадлеўскага, які з будынку касьцёлу 24 сьнежня 1942 г. быў вывезены ў Трасьцянец і ў той самы дзень там зьнішчаны.

Сьвятая імша пройдзе і ў памяць усіх сьвятароў-пакутнікаў Беларусі, што загінулі ад рук нацыстаў у гады другой сусьветнай вайны, а таксама ў памяць усіх ахвяраў Трасьцянца.

Пасьля Сьвятой імшы адбудзецца пасяджэньне круглага стала "Трасьцянец – трагедыя духоўнага й фізычнага зьнішчэньня беларускага народу ў гады другой сусьветнай вайны".

# Аўтарытарызм на аўтарытарызм не мяняюць

**У пэўных дэмакратычных колах папулярнымі сталі разважаньні: маўляў, абвастрэньне канфлікту паміж афіцыйным Менскам і Масквой вось-вось прывядзе да доўгачаканых палітычных зьменаў у нашай краіне. Расея адхіліць Лукашэнку ад улады, новы ўрад, прызначаны Крамлём, пачне палітычныя й эканамічныя рэформы зьверху, у Беларусі нарэшце ўсталюецца дэмакратыя.**



**Дэмакратызацыя ў Расеі суправаджалася павелічэньнем разрыву паміж багатымі і беднымі.**

Праўда, давядзецца крыху паступіцца сувэрэнітэтам, хоць Расея наўрад ці пойдзе на поўнае паглынаньне Беларусі — дзеля эканамічных праблемаў, якія непазьбежна паўстануць у гэтым выпадку, і праз незадаволенасьць Захаду гэтым крокам Крамля. Нават багатая Заходняя Нямеччына заплаціла за інкарпарацыю ўсходніх земляў падзеньнем ВУП і стагнацыяй эканомікі ў 1990—93 г. Да таго ж Расея, ЗША і Вялікая Брытанія зьяўляюцца гарантамі незалежнасьці Беларусі пасьля вываду з нашай тэрыторыі ядравай зброі. Інкарпарацыяй Расея паставіла б сваіх заходніх партнэраў у няёмкае становішча.

### Галоўнае — веліч

Слабасьць гэтых аргумэнтаў відавочная. Расея не належыць да краінаў, якія дзейнічаюць рацыянальна, падлічваючы ўсе плюсы і мінусы тых ці іншых палітычных рашэньняў. Вельмі важную ролю ў часе выбару палітычнага курсу грае ірацыянальны фактар "велічы дзяржавы". Дзеля яго Расея ўжо шэсьць гадоў вядзе крывавую вайну ў Чачэніі, дзеля яго Пуцін загадаў спэцназу "вызваляць" закладнікаў "Норд-Осту", рызыкуючы жыцьцямі і закладнікаў, і спэцназу, а ня весьці перамовы з тэрарыстамі. Беларускае пытаньне таксама належыць да ліку тых, дзе аргумэнты на карысьць "Вялікай Расеі" пераважаюць здаровы сэнс.

Падчас нядаўніх слуханьняў у Думе па пытаньні беларуска-расейскай інтэграцыі, дэпутаты нават і не хавалі сваіх плянаў інкарпарацыі Беларусі. Як адзначыў у інтэрвію газэце *"Белорусский рынок"* адзін з удзельнікаў слуханьняў зь беларускага боку Валеры Карбалевіч, "беларускія і расейскія ўдзельнікі разумелі інтэграцыю па-рознаму. Першыя — як узаемавыгаднае эканамічнае й палітычнае супрацоўніцтва, дапамогу Расеі ў дэмакратызацыі Беларусі; другія — як аб'яднаньне ў адну дзяржаву. І гэтае пытаньне, на жаль, ніяк не абмяркоўвалася".

### "Дзеля іхнага дабра"

А пасьля таго, як пуцінская Расея "пасябравала" з ЗША на глебе антытэрарыстычнае барацьбы, захаваньне гэтага хаўрусу часам падаецца на Захадзе больш істотным, чым сувэрэнітэт невялікай краіны, якая яшчэ й належыць да "восі зла". Інкарпарацыя Беларусі ў склад Расеі робіцца для "ейнага ж дабра" і будзе непазьбежна суправаджацца "ейнай дэмакратызацыяй" і "абаронай правоў" тутэйшага насельніцтва. Так, напэўна, патлумачаць расейскія палітыкі сваім заходнім калегам сэнс аншлюсу, калі той адбудзецца.

Але гісторыя ня ведае ніводнага выпадку, калі б мэтраполія рабіла сваю калёнію вольнай і дэмакратычнай, не даючы ёй незалежнасьці. Уявім сабе: народ залежнай краіны атрымаў ад "гаспадара" права свабодна выяўляць сваю волю — у тым ліку і волю аддзяляцца й аднаўляць незалежнасьць. Нават дэмакратычная Брытанія праводзіла жорсткую каляніяльную палітыку ў Індыі, Паўднёвай Афрыцы, Аўганістане. Лібэральныя рэформы там — накшталт увядзеньня мясцовага самакіраваньня ў Індыі ў 1919 г. ці пашырэньня выбарчых правоў індусаў у 1935 г. — былі вымушанымі крокамі брытанскіх уладаў у адказ на масавую нацыянальна-вызвольную барацьбу, якая ў Індыі праводзілася негвалтоўнымі мэтадамі ("сат'ягараха").

### Моцная рука

Адносна практычнай магчымасьці замяніць сёньняшнюю дыктатуру ў незалежнай Беларусі на заўтрашнюю дэмакратыю ў складзе Расеі ўзьнікаюць яшчэ большыя пытаньні. Сама Расея не зьяўляецца дэмакратычнай краінай. Калі раней можна было казаць пра пэўныя тэндэнцыі дэмакратызацыі, пра марудны і пакутлівы шлях палітычных рэформаў зьверху пры Ельцыну, пра дэмакратыю хоць бы ў сталіцах і буйных гарадах, дык пасьля прыходу да ўлады Пуціна аб гэтым не даводзіцца нават згадваць. Расейскія рэформы спыніліся на ўвядзеньні рынкавай эканомікі і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці. У сучаснай Расеі амаль згібела канкурэнцыя палітычных альтэрнатываў, правая і левая апазыцыя Пуціну зрабіліся памяркоўнымі й кішэннымі, становішча незалежных СМІ значна пагоршылася, у расейскіх рэгіёнах адбываюцца масавыя парушэньні правоў чалавека. Сапраўдныя дэмакратычныя інстытуты і працэдуры расейскай кіроўнай эліце пакуль не спатрэбіліся.

### Не бывае дэмакратычных імпэрый

Гэта тлумачыцца шэрагам прычынаў. Папершае, праблема нацыянальнай ідэнтычнасьці ў шматнацыянальнай і шматканфэсійнай Расеі па-ранейшаму пакідае актуальнай дылему, выказаную ў свой час Зьбігневам Бжазінскім: "Расея можа быць альбо імпэрыяй, альбо дэмакратыяй, але яна ня можа быць і адным, і другім адначасова". Па-другое, урады Гарбачова—Ельцына спрабавалі аўтарытарнымі мэтадамі ўводзіць дэмакратыю спачатку ў СССР, потым — у Расеі. Гэта непазьбежна вяло да аслабленьня інстытутаў народаўладзьдзя, парлямэнтарызму. Разбурэньне старых палітычных інстытутаў не суправаджалася стварэньнем новых, укарэненых у грамадзтве. У выніку паўстала жорсткая цэнтралізаваная сыстэма, якая зь цяжкасьцю паддаецца рэфармаваньню.




Дэмакратызацыя ў Расеі суправаджалася павелічэньнем разрыву паміж багатымі і беднымі, ростам злачыннасьці, аслабленьнем міжнароднных пазыцыяў краіны, зрошчваньнем некаторых рэгіянальных элітаў з злачыннымі групоўкамі. Гэта расчаравала выбаршчыкаў у "дэмакратыі". У сярэдзіне 90-х чвэрць расейцаў выказвалася за моцную руку, "за расейскага Пінахэта". Прызначэньне Пуціна прэзыдэнтам у 2000 г. і сталася своеасаблівым адказам кіроўнай эліты на ёю ж справакаваныя прааўтарытарныя зьмены ў грамадзкай сьвядомасьці.

### Колькі дэмакратыі ў Калмыкіі

Ніякі варыянт далучэньня Беларусі да Расеі не спрычыніцца да зьнішчэньня аўтарытарных парадкаў і рэфармаваньня палітычных ды эканамічных інстытутаў у нашай краіне. Беларусь пераўтворыцца ў адзін (ці ў 6) рэгіён(аў) Расеі, кшталту Калмыкіі ці Краснадарскага краю, дзе "не ступала нага ніводнага дэмакрата". Эканоміка трапіць пад поўны кантроль расейскага напаўкрымінальнага капіталу, значна абвострыцца праблема беспрацоўя і сацыяльная сытуацыя ў выніку прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў бізнэсоўцамі з усходу. Таму ўсур'ёз ня можа нават абмяркоўвацца прапанова: мы вызваляем вас ад дыктатуры, а вы аддаяце нам свой сувэрэнітэт. Наступствам такога гешэфту сталася б замена адное формы аўтарытарызму на іншую, пераадолець якую беларускаму грамадзтву было б значна цяжэй, чым адхіліць ад улады сучасны палітычны рэжым. Адзіным шляхам Беларусі да дэмакратыі й дабрабыту зьяўляецца шлях захаваньня і ўмацаваньня нацыянальнай незалежнасьці.

**Уладзімер Роўда**

# Дыпляматыя трубаправодаў

Працяг са старонкі 6.

Аднак выкарыстаць Панкіскую цясьніну як пляцдарм і падставу для ўмяшаньня ва ўнутраныя справы Грузіі ня выйшла. Амэрыка выступіла супраць пашырэньня канфлікту на тэрыторыю Грузіі. Усьлед запрацавалі буйнамаштабныя праграмы дапамогі Тбілісі з боку ЗША і Турцыі. Падтрымліваючы Грузію, Злучаныя Штаты здымалі перашкоды для будоўлі трубаправоду Баку—Тбілісі—Джэйхан.

У 2001 г. на тэрыторыі былой расейскай вайсковай базы ў Вазіяні зьявіліся амэрыканскія і турэцкія вайскоўцы. ЗША і Турцыя ўклалі амаль 400 млн. даляраў у падвышэньне баяздольнасьці 27-тысячнай грузінскай арміі. За амэрыканскія грошы былі створаныя, навучаныя і ўзброеныя грузінскія сілы спэцыяльнага прызначэньня колькасьцю 2 тыс. чалавек. У краіне, дзе сярэдні заробак складае 30 даляраў, а 25% працаздольных ня маюць працы, шараговец элітнага падразьдзяленьня атрымлівае 300 даляраў у месяц.

Тбілісі й Вашынгтон абмежавалі апэрацыйную базу чачэнскіх паўстанцаў поўднем цясьніны і скіравалі іх энэргію па-ранейшаму на поўнач — у Чачэнію, Дагестан і Расею. Вайсковая прысутнасьць ЗША і Турцыі ў Грузіі не перашкодзіла чачэнцам атрымліваць праз тэрыторыю гэтай краіны ўсё неабходнае для вайны з Расеяй. Заявы Масквы аб "падвойных стандартах" амэрыканскае палітыкі Вашынгтон пакіну без увагі. Заходняя гуманітарная дапамога трапляе да насельніцтва Чачэніі праз аддзелы паўстанцаў.

Спроба Расеі выкарыстаць баяздольныя чачэнскія аддзелы як чыньнік ціску на Грузію бумэрангам вярнулася да Крамля. Цяпер Грузія, абураная тым, што Масква дапамагае сэпаратысцкім рэгіёнам (Абхазіі і Паўднёвай Асеціі — на поўначы і Джавахеціі, дзе кампактна жывуць армяне, — на поўдні), ціснe на Расею, пасіўна спрыяючы Ічкерыі.

У Тбілісі легальна існуе дзясятак арганізацыяў, што яе прадстаўляюць. У тым ліку тры "турыстычныя агенцтвы", што перапраўляюць у Чачэнію валанцёраў з мусульманскіх краінаў для ўдзелу ў джыгадзе. Чатыры арганізацыі, паводле зьвестак расейскага Генштабу, аплачваюць акцыі супраць "фэдэралаў" і дапамагаюць грашыма сем'ям паўстанцаў. У той жа час грузінскае кіраўніцтва не дало расейскай адміністрацыі Чачэніі дазволу ствараць прадстаўніцтва ў Тбілісі.

Крэмль абураецца, што кампанія ЗША, скіраваная супраць фундатараў "Аль-Каіды" й іншых тэрарыстычных арганізацыяў, не паўплывала на фінансаваньне чачэнскага руху. Наадварот — тыя вялікія сумы, што раней з краінаў Пэрсыдзкай затокі накіроўваліся ў Аўганістан, ідуць у Ічкерыю. Ахвяраваньне на "джыгад" па-ранейшаму вельмі папулярнае сярод насельніцтва багатых мусульманскіх краінаў. Цягам 2001 г. генпракуратура Расеі высьветліла факты пераводу праз афшорныя зоны на "чачэнскія" рахункі 150 млн. даляраў.

Вельмі турбуе Расею і тое, што Чачэнія — толькі эпіцэнтар выбухованебясьпечнай зоны на Паўночным Каўказе. Карныя акцыі, зладжаныя ў верасьні 1999 г. супраць буйных вагабіцкіх аулаў Карамахі й Чабанмахі, не спынілі пашырэньня ў Дагестане ідэяў радыкальнага ісламу. Толькі ў першай палове 2002 г. ад рук вагабітаў у Дагестане загінулі каля дзесяці супрацоўнікаў міліцыі. У верасьні 2002 г. у цэнтры Махачкалы быў забіты начальнік упраўленьня па барацьбе з экстрэмізмам і пагрозай тэрарызму МУС Дагестану. Амаль штомесяц у Навалацкім, а таксама ў высакагорных Цумадзінскім і Ботліхскім раёнах расейскія вайскоўцы выяўляюць сховы са зброяй і боепрыпасамі. Падобная сытуацыя складаецца ў Малакарачаеўскім раёне Карачаева-Чаркесіі...

Расея імкліва губляе свой уплыў на Каўказе. Недарэмна Тэадор Рузвэльт у свой час казаў: "Нафта — гэта кроў вялікай палітыкі".

**Андрэй Ляховіч**

**Творчасьць мастакоў беларускай дыяспары XX ст. — вялікі пласт нашае культуры. Адных зь іх добра ведаюць у краінах, дзе яны працуюць, — напрыклад, дойліда Сьвеціка Каржанеўскага з Аўстраліі. Пра іншых ведама зусім невялікаму колу — як пра жывапісца Канстанціна Гэду, які жыў у Аргентыне. У Беларусі малавядомая і творчасьць Уладзімера Шыманца й ягонай дачкі Івонкі Сурвіллы, якая цяпер старшынюе ў Радзе Беларускае Народнае Рэспублікі. Скарыстаўшыся зь ейнага гасьцяваньня ў Вільні, я вырашыў пагутарыць з спадарыняй Сурвіллаю менавіта пра мастацтва.**

# “Чалавеку патрэбнае

## *Гутарка Сяргея Харэўскага з Івонкай Сурвіллай*





Уладзімер Шыманец быў родам з Стаўпеччыны, у 1934 г. скончыў Тэхнічную школу ў Вільні, на Галяндэрні. Дарэчы, у ёй таксама пэўны час займаўся Максім Танк, а пазьней — сыны Антона Луцкевіча.

У Вільні ж Уладзімер Шыманец кшталтаваў свой мастакоўскі талент. У даваенны час тут панавала цалкам іншая атмасфэра, чым у тагачасным Менску. Можна было знаёміцца з творчасьцю мастакоў, забароненых у Савецкай Беларусі. Максім Танк у сваіх “Лістках календара” ў 1939 г. пісаў: “К. паказаў мне цікавую калекцыю рэпрадукцыяў Марка Шагала... шмат цікавага расказваў мне пра яго, пра Кандзінскага, Малевіча. Паказаў некалькі работ Блёндэра, Стэрна, зь якімі ён сустракаўся, калі жыў і вучыўся ў Кракаве. У сюжэтах шагалаўскіх ёсьць шмат знаёмага мне зь дзіцячых казак і кірмашных балаганаў. Толькі ўсё гэта перамешана з такой вакханаліяй фарбаў, якая і ў сьне не прысьніцца”. “К.” — гэта, хутчэй за ўсё, Мар’ян Кулеша, мастак і пэдагог, што выкладаў маляваньне і ў Тэхнічнай школе, якую скончыў Шыманец.

Пераехаўшы ў Францыю, Уладзімер Шыманец стаў адным зь лідэраў беларускай дыяспары. Ён быў старшынём Беларускага выдавецкага фонду, міністрам фінансаў БНР, фінансавым рэфэрэнтам Сусьветнага аб’яднаньня беларускае эміграцыі.

Палотны і акварэлі Шыманца — гэта пераважна архітэктурныя краявіды. Як пісаныя з натуры, гэтак і выдуманыя, прысьнёныя. Напрыклад, элегічны краявід яго роднага Засульля з царквою (камуністы раскідалі яе ў 60-я). Альбо напісаны ў духу француcкага жывапісу краявід з касьцёлам — мястэчка Сартруэль, што ля Парыжу, у якім Івонка брала шлюб зь Янкам Сурвіллам. Вобраз былой Вільні таксама шматкроць паўставаў у творах Шыманца. Настальгічную любоў да старое сталіцы мастак прышчапіў і сваім блізкім. Івонка, ніколі датуль ня бачыўшы гэтага гораду, яшчэ ў 1967 г. стварыла адзін з самых вядомых сваіх малюнкаў — “Вільня зімою”, выдадзены пазьней паштоўкаю.

**С.Х.:** Як склаўся Ваш асабісты лёс у мастацтве?

**І.С.:** З татам ня можна было іначай жыць, як мастацтвам. У Люўры я пабывала мо сто разоў. Пасьля пайшла вучыцца на мастацтва. Праз пэўны час мне здалося, што ад гэтага мастацтва будзе мне бяда. У Парыжы было мноства мастакоў, нешта пад 70 тысяч. І ўсе яны амаль спалі пад мастамі, працавалі вартаўнікамі на фабрыках, бо не маглі з мастацтва пражыць. Тамака не існавала такой сыстэмы, як у Савецкім Саюзе, — курсаў, апекі. І я падумала, што трэба мне знайсьці такую працу, каб зь яе зарабляць. Таму я перайшла ў Сарбону вучыцца моваў — скандынаўскіх і ангельскай з француcкай. З гэтага я, фактычна, усё жыцьцё жыла. Але адначасна ўсё жыцьцё малявала. Брала ўдзел у трох дзясятках выставак. Чатыры зь іх былі індывідуальныя.

**Па вайне ў Францыі, апроч Уладзімера Шыманца, працавалі таксама беларускія мастакі Віктар Жаўнярові і Міхась Наўмовіч. У Парыжы тады панавалі кансэрватыўныя густы. Катастрафізм экспрэсіяністаў Мунка, Суціна, як і дэканструктывізм позьніх кубістаў Грыса, Ліпшыца, выйшаў з моды. Публіка зноў хацела бачыць мастацтва, блізкае да рэалізму.**

**С.Х.:** Распавядзіце, калі ласка, пра тое, як Вас вучылі.

**І.С.:** Мастацтву я вучылася ў Парыжы, у *Ecole supérieure des beaux-arts*. Там кожны студэнт быў прымацаваны да аднаго мэтра. Маім быў Жан Сувэрбі, сябар Акадэміі, нэакласык. Ён выдатна разумеў сучаснае мастацтва: дагэтуль памятаю ягонае яснае, натуральнае тлумачэньне, чаму Пікаса маляваў каня з адным вокам збоку каля пысы. Разам з тым, ён паважаў клясыцызм — прапорцыі, прыгостна лінію, кампазыцыю. Ён не прызнаваў пэйзажу. Для яго вартымі ўвагі былі толькі людзкое цела, партрэты, жанравыя кампазыцыі.

**Разам з тым, Францыя яшчэ знаходзілася пад уплывам перадваеннага авангарду, у тым ліку мастакоў родам зь Беларусі, якія па вайне мелі сусьветную славу: Шагала, Ліпшыца, Суціна. Уладзімеру Шыманцу належыць тэрмін “парыская школа” ў дачыненьні да нашых землякоў даваеннае эміграцыі. Але ніхто на Захадзе не асацыяваў іх зь Беларусяй. Зрэшты, і ў самой Беларусі, за рэдкімі шчасьлівымі выключэньнямі, напрыклад Максіма Танка, іх ня ведалі.**

**С.Х.:** Хаіма Суціна, напрыклад, да сёньня на Захадзе лічаць літоўцам. Як Вы ставіцеся да гэтага?

**І.С.:** Ён жа са Сьмілавічаў. Ён назваў сябе недзе літваком, як і ўсе жыды зь Беларусі называлі сябе літвакамі... І раптам кажуць мне літоўцы: гэта літоўскі мастак! Мяне, як некалі й майго тату, гэта моцна засмучае.

**С.Х.:** Скажыце, а што з заходняга мастацтва паўплывала на Вас і Вашую творчасьць найбольш?

**І.С.:** Перадрэнэсанс мне падабаецца больш, чым сам Рэнэсанс і час пасьля Рэнэсансу. Але што мне расплюшчыла вочы на мастацтва й колер — гэта імпрэсіянізм. Як я першы раз пабачыла імпрэсіяністаў, то пабегла дадому й пачала маляваць. Да такой ступені мяне захапіла гэта!

Усе сьцены ў мяне былі завешаныя Гагенам. І ў Клёда Манэ, і ў Эдуара Манэ, і ў Рэнуара, і ў постімпрэсіяністаў былі рэчы, што мяне захаплялі. “Натурморт зь сіняй вазай” Сэзана таксама вісеў у мяне на сьцяне. Таксама моцна захапляюся Пікаса. На схіле гадоў ён маляваў занадта неахайна, а вось ягоная графіка — гэта штосьці цудоўнае.

А цяпер вось была ў Даніі й захапілася творамі мастака з выспы Борнгальма Олюфа Геста. Ён маляваў пераважна пэйзажы. Ён меў фэрму і маляваў тую фэрму сотні разоў, часам трыма-чатырма колерамі. У кожным часе жыцьця можна раскрыць новыя захапленьні.

**Чыстае й звонкае мастацтва папярэднікаў італьянскага Рэнэсансу й француcкіх імпрэсіяністаў вельмі сьцьвярджальнае. Уплыў гэтага мастацтва адчуваецца ў творах Івонкі Сурвіллы, найперш у партрэтах яе сваякоў.**

**С.Х.:** Аднаго разу Сальвадор Далі трапна сказаў: Францыя — краіна найлепшага густу, таму там усё атрымліваецца ружовенькім ці блакітненькім, а Гішпанія — краіна кепскага густу, таму там ёсьць вялікі жывапіс. Да 1965 г. Вы з мужам працавалі ў Мадрыдзе. Гэтыя гады супадаюць з пэрыядам вялікае моды на гішпанскае мастацтва ў сьвеце. Ці паўплывала яно на Вас?

**І.С.:** Вэляскес мне моцна імпануе. Ягоная “Інфанта” падабаецца надзвычай. Далі быў надзвычайным малявальшчыкам, але ягоны сюррэалізм бянтэжыць мяне сваёй мізантропіяй. Затое ягоныя абразы Хрыста, абразы жонкі ў позах Мадонны надзвычай прыгожыя. Цяпер я па-іншаму бачу й творчасьць Міро, якога тады неяк не заўважала.



Уладзімер Шыманец. Вастрабрамская вуліца ў Вільні



Уладзімер Шыманец. Царква ў Засульлі

**Івонка Сурвілла: Мой тата, як быў у школе, то ўсё цягнікі маляваў у розных пэрспэктывах. І паказвалі ягоныя малюнкі па ўсіх іншых школах у Засульшчыне. Ён жадаў стацца мастаком і жыў мастацтвам, усё ведаў пра гэта, усіх мастакоў. Шукаў, вырэзваў з газэтаў, купляў альбомы. Адначасна меў прафэсію інжынэра і так зарабляў на хлеб. Нават раней пайшоў на пэнсію, каб магчы маляваць.**

**Івонка Сурвілла ўважае, што мера таленту мастака, напрыклад Пікаса ці Далі, — гэта перадусім грунтоўнасьць ягонага малюнка. Графіцы самой мастачкі маглі б пазайздросьціць савецкія рэалісты. Напрыклад, графічным аркушам пачатку 90-х гадоў “Смутак”.**

# прыгоства”

**С.Х.:** Ці маеце Вы свае ўласныя мастацкія прынцыпы?

**І.С.:** Цяперашняя канцэпцыя мастацтва мне чужая. Калі я хачу штосьці па-мастацку выказаць, то, хочучы ці ня хочучы, я раблю гэта спосабам, які мяне пераносіць у сьвет лепшы, у штосьці прыгожае. Я не малюю ваенных сцэнаў, унікаю трывожных колераў... Папросту не магу. Я малюю ідэалізаваны сьвет.

**С.Х.:** А хто зь беларускіх мастакоў паўплываў на Вашую творчасьць найбольш?

**І.С.:** Быў час, калі я чулася блізкаю да Алесі Пасьлядовіч. Як я пачала рабіць графіку, то нешта супольнае было. Наагул, беларускія графікі цудоўныя.


Івонка Сурвілла. Вільня зімою

**Уплыў графікі Алесі Пасьлядовіч 60—70-х адчуваецца ў танаваным афорце “Ішкальдзь”, у афорце “Белая вежа”. Парадаксальная сувязь пры адсутнасьці беспасярэдніх кантактаў.**

**С.Х.:** Як Вы ацанілі б стан сучаснага беларускага мастацтва? Што Вам падабаецца ў ім?

**І.С.:** У кожнага мастака ёсьць рознае, праўда? У майго брата, напрыклад, захоўваецца адна карціна Батальёнка, якая мне надзвычай падабаецца. Не падабаюцца творы тых мастакоў, хто пачынае рабіць рэчы камэрцыйныя, дзеля прычынаў, што нічога ня маюць супольнага з мастацтвам. Такіх шмат, на жаль, цяперака.


Івонка Сурвілла. Смутак

**Мастачка невыпадкова зьвярнула ўвагу на ўтрыманскі статус мастакоў за Саветамі. Большасьці зь іх давялося расплачвацца душою. Мастацкае жыцьцё ў сьвеце тым часам імкліва стварала новыя формы, сумежныя з тэатрам, літаратураю. Размывалася мяжа паміж мастацтвам і ягонымі штукарскімі імітацыямі.**

**С.Х.:** Часта паўстае пытаньне пра далейшы лёс мастацтва. Якім Вы яго ўяўляеце?

**І.С.:** Выяўленчае мастацтва — патрэба людзкой душы. Яно ня мусіць быць ілюстрацыяй ідэі, што ня мае нічога супольнага з мастацтвам. Скажам, калі мастак павесіць чатыры лямпачкі ў розныя куткі залі й напіша вялікі тэкст між гэтымі лямпачкамі, што ён хоча гэта й гэта імі выказаць, — то, на маю думку, гэта не выяўленчае мастацтва. Гэта ідэя, да якой ён стараецца прыцягнуць увагу рознымі спосабамі. Эстэтычны сэнс — важны элемэнт мастацтва. У чалавека ёсьць патрэба ў прыгастве: і формаў, і колераў, і кампазыцыі.

Шчасьлівым чынам у Беларусь вяртаецца Шагал, але сотні творцаў яшчэ не вярнуліся. Крытыка ў пачатку 90-х неабачліва крытыкавала этнаграфізм, кпіла з сантымэнтальнасьці эміграцкага мастацтва. Ніхто не аналізаваў тады пачуцьцяў мастакоў, дзесяцігодзьдзямі адарваных ад Бацькаўшчыны. Хоць прыклад Міцкевічавага сантымэнталізму мог шмат каго навучыць... “Мы, відаць, ня ўмеем хлусіць”, — гэтак падсумавала нашу размову пра мастакоўскую творчасьць на эміграцыі Івонка Сурвілла.

---

haute culture

## Сытыя і галодныя

Ёсьць *культуры сытасьці* і ёсьць *культуры голаду.*

*Голад як шанаваньне беднасьці*, як гонар за ўласныя лахманы й рызьзё спараджае старанна ўзгадаваную пакрыўджанасьць. Гэтай пакрыўджанасьцю выхваляюцца перад суседзямі, а сябе ўрачыста выстаўляюць як няшчасную ахвяру.

Для культуры беднасьці характэрная непрыхаваная зайздрасьць да багацьця, пры гэтым галеча ўспрымаецца як дабро, а багацьце — як зло: “мы бедныя, затое маральныя”, з голым задам, але “высокадухоўныя”. Дабрабыт, пра які ўпотайкі мараць, заўжды амаральны, скрадзены й несправядлівы.

Беднасьць залежыць ад сацыяльнай дапамогі, яна разьлічвае на пэнсіі, дапамогі й выплаты, яна жабруе й чакае, што ёй дадуць. Беднасьці цяжка ўладкавацца на працу, бо ёй заўжды хтосьці перашкаджае: мафія, натаўцы ці габрэі.

Зь беднасьцю злучаны гвалт, пры гэтым гвалтаўнік не вінаваты, бо яго ж пакрыўдзілі. У такой культуры герой — мардаты блатняк, “распальцаваны” падонак і “няшчасны сіротка”, у якога маці пераехала камбайнам, а сястра атруцілася запалкамі.

Яшчэ сацыёлягі заўважылі, што культуры беднасьці — гэта культуры байструкоў і абортаў.

*Голад як духовая прага*, здаецца, зьвязаны зь беднасьцю, але выходзіць за яе межы. Культуры духовай прагі — гэта й першыя хрысьціяне, якія зьмянілі існасьць паганскай імпэрыі, і адкрыўцы да прыроды гіпі, і маладыя навукоўцы з Сыліконавай даліны, што стварылі пэрсанальны кампутар. Дый сябрына падлеткаў, якія аб'ядналіся ў безграшовы рок-гурт проста з-за любові да музыкі, — гэта таксама культура духовай прагі.

Ёсьць чалавек-творца, і ён не адзін — ён стварае разам з усімі. Тут няма зайздрасьці, а ёсьць зьдзіўленьне, кемлівасьць і талент, бескарысьлівая зацікаўленасьць духоўнага голаду.

*Культуры сытасьці* вырастаюць з гэтага духовага голаду; яны не парываюць сувязі зь ім, але ўсё больш засяроджваюцца на дабрабыце, які й створаны першапачатковым духовым парывам.

Гэта стабільнасьць і раўнавага, вызначаныя формы. Гэта оскараўскія фільмы, дзе ўсё ў маральным пляне — на сярэднята чалавека; гэта “пратэстанцкая этыка й дух капіталізму” з упартай працай, посьпехам і плястыкавымі крэсламі на газонах.

Калі ж повязі зь першапачатковым духовым штуршком забываюцца, культуры сытасьці выраджаюцца ў *культуры асыцеласьці.*

Гэта — карыстаючыся назвай фільму Марка Фэрэры — “Вялікая жратва” культуры: жуйкі замест душы, тампоны замест цела, “грамадзтва ўсеагульнага дабрабыту” замест рэштак ачалавечанасьці.

Культура асыцеласьці — двайнік культуры беднасьці: у абодвух выпадках рухавік — зайздрасьць; асыцеласьць як эталён — адначасова і пажаданая і зьненавідная.

У Беларусі рэжым кансэрвуе культуру беднасьці, а дражніць культураю асыцеласьці. Але нашыя індывідуалісты хутчэй схільныя да культуры сытасьці — прыватныя гароды, прыхаваная бульба, “перачакаем — болей пачуем”.

Нашая культура сытасьці ў сваёй глыбіні хавае ў сабе вялікую рухомасьць, гэта, як казаў Канчэўскі, імкненьне да стварэньня “ліючыхся формаў”.

Беларуская культура — гэта духовая прага і матэрыяльны дабрабыт.

**Андрэй Расінскі**

сам пра сябе


УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

## “Бязьмежжа”

**У першай палове сьнежня ў Беластоку і Гайнаўцы адбыліся польска-беларускія літаратурныя спатканьні пад назвай “Бязьмежжа”. Былі прадстаўлены новыя нумары беластоцкіх часопісаў *“Kartki”* ды “Правінцыя”.**

Спачатку ў артыстычнай кавярні *“Fama”* ў Беластоку адбылося спатканьне паэтаў з Польшчы, Літвы і Беларусі — пад назовам “Вялікае княства паэтаў”. З нашага боку свае вершы чыталі Юры Гумянюк з Горадні, Алесь Аркуш з Полацку і Міра Лукша зь Беластоку. Вялікі канцэрт зрабіла “WZ-Orkiestra” на чале з Тодарам. Публіка спачатку піла сваю каву і піва ды старанна напаўняла памяшканьне дымам. Але Тодар здолеў змусіць прысутных рэагаваць на беларускія песьні. Публіка з імпэтам адказвала яму і падпявала.

На другі дзень чытаньне вершаў працягнулі ля вогнішча з кілбаскамі й гарэлкай, у роднай вёсцы рэдактара *“Kartek”* Багдана Дудка Цісоўцы, што знаходзіцца ля беларускае мяжы.

**Сяргей Максімовіч, Беласток-Горадня**

# Піяр у час чумы

“Нэйра-Дзюбэль”.
Піяр у час чумы, 2002.

Ніякай мэты, кшталту раскруткі, гэты альбом перад сабой ня ставіць, нягледзячы на назву. Позна нас ужо раскручваць. Гэта справаздача аб працы гурту за апошнія сем гадоў. У альбом увайшлі песьні з праграмаў 1996—2002 г.

Трапілі туды й дзьве песьні на беларускай мове з апошняга альбому *“П.И.О.Т.К.У.К.У.К”* — “Скрыпка дрыгвы” на верш У.Караткевіча і Tut.by (“Я памру тут”).

Усе ведаюць “Нэйра-Дзюбэль” як выключна расейскамоўны гурт, але апошні год мы працуем над песьнямі, напісанымі менавіта на роднай мове. Ёсьць такая песьня і ў новай праграме.




За апошнія сем гадоў гурт выдаў сем альбомаў. Гэтыя праграмы былі запісаныя на розным гуку, рознымі складамі, частка песень увайшла ў канцэртныя рэпэртуары. Але, каб паслухаць “Паляўнічага і сайгака” “Гумовы дом”, “Гагарына”, “Я памру тут”, трэ было шукаць чатыры розныя альбомы — розныя і па часе напісаньня, і па гуку. Цяпер гэта ўсё запісана на адным гуку і адным духам. Багата рэчаў, якія ўвайшлі ў гэтую праграму, узятыя зь нявыдадзенага на CD (толькі мізэрным касэтным накладам) альбому “Разумныя рэчы”. Запіс “Піяру” праходзіў зь перапынкамі ад 2000 г. да вясны 2002 г., у ім бралі ўдзел у той ці іншай меры 8 музыкаў.

“Піяр у час чумы” аб'ядноў частку з таго, што мы можам назваць *The Best*. Толькі частку, бо для альбому было запісана 27 песень, зь іх мы выбралі 17. Астатнія? Магчымы працяг, але гэта наўрад ці будзе вырашаць сам гурт, хутчэй — абставіны.

**Аляксандар Кулінковіч**

# Раман Канвіцкага — па-беларуску

**Прэстыжную прэмію імя Яна Парандоўскага, што прысуджаецца Польскім ПЭН-цэнтрам за ўвесь творчы даробак, атрымаў сёлета Тадэвуш Канвіцкі.**

“Быў некалі такі жанр мастацтва, як літаратура. У тыя часы ў гарадах траляліся спэцыяльныя крамы, дзе прадавалі прадметы, якія мы называлі кнігамі”, — так пісаў у “Памфлеце на сябе” Тадэвуш Канвіцкі. Залатая пара літаратуры сапраўды ў мінулым. Але гэта не зьмяншае велічы яе волатаў. Сярод такіх і Канвіцкі.

Ягоны раман “Малы апакаліпсыс” у сацыялістычнай Польшчы прачыталі мільёны людзей, нягледзячы на забарону ўладаў. Гэты твор зрабіў для руйнаваньня савецкае дыктатуры ня менш, чым кнігі Салжаніцына.

Адначасова зь весткай пра новае ўганараваньне Канвіцкага стала вядома, што раман перакладзены на беларускую мову. Ён выйдзе ў сьнежаньскім нумары часопісу “Arche”. Аўтар перакладу — Алесь Пяткевіч, выпускнік факультэту германістыкі Лінгвістычнага ўнівэрсытэту, што цяпер працуе ў Празе-Чэскай.

**Мікола Бугай**

**Выхаваўча-працоўная калёнія №2 у Бабруйску. Тут утрымліваюцца непаўналетнія зьняволеныя. Пацаны, вінаватыя ў крадзяжах, рабаўніцтвах, забойствах, згвалтаваньнях.**



Кантынгент хлопцаў, што трапляюць у калёнію, абсалютна розны. Некаторыя зь іх толькі ў 16—18 гадоў вучацца чытаць і пісаць.



На першым месцы сярод праванарушэньняў — разбой і крадзяжы. Што змушае хлапца ісьці красьці? Часьцяком ня толькі жаданьне мець штосьці выключнае, прэстыжнае. Бывае, што ў пацана няма элемэнтарнага. Чаму ж тады ў іншых ёсьць?

Антон пачаў красьці ў 14 гадоў. Першы раз залез у шапік, скраў 10 шакалядак, 30 чупачупсаў, 30 пачкаў чыпсаў, жуйкі "Дырол" і "Стымарал". Пакуль ішло сьледзтва, абрабаваў кватэру: узяў відэаплэер, касэты, фотаапарат. Па гэтых дзьвюх справах яму далі сем месяцаў выхаваўча-працоўнай калёніі і адпусьцілі дадому да моманту ўступленьня прысуду ў сілу. Антон тым часам "узяў" у аптэцы грошы з касы — каля 300 тыс.

# Бабруйская "малалетка"



рублёў, а ў адной кватэры — магнітафон. Да 7 месяцаў дадаліся яшчэ два з паловай гады.



Павал тут ужо 4 гады, вучыцца ў 11 клясе. Асуджаны за напад: зь сябрукамі зьбілі чалавека, забралі грошы, золата. Толькі ў калёніі ўсьвядоміў, што, парушыўшы закон, паламаў свой лёс. Цяпер шкадуе.

Часам хлопцы забіваюць, прычым з асаблівай жорсткасьцю, нібы самасьцьвярджаючыся праз гэта. Не разумеюць, што крымінальная рамантыка жыве хіба на кінаэкране. І сьветам сёньня кіруюць багатыя адукаваныя людзі.



Алекс адбывае тэрмін за забойства. Асуджаны на 8 гадоў. Два з паловай ужо адседзеў. Калі выйдзе, яму будзе 22. Былі сябры на волі, але адвярнуліся ад яго: ніхто ня піша, не прыходзіць.

Дык чаму ж хлопцы йдуць гэткім шляхам? Хто вінаваты ў гэтым: мо школа або грамадзтва? Найперш — сям'я. А таму, шаноўныя таты і мамы, калі даў вам Гаспод права звацца бацькамі, любіце сваё дзіця, беражыце яго ад зла і бедаў ды не калечце абыякавасьцю да ягонага жыцьця! Бо ўсе праблемы пачынаюцца адсюль.

**Фота і тэкст Васіля Мазаева**





мова-2002

# “Ліцьвін — арэ адзін”

**У вуснай творчасьці розных народаў можна знайсьці непрыязныя найменьні для суседзяў. Прычынай таму была незаўсёдная прыязнасьць адзін да аднаго падчас лагоднай калянізацыі, нападаў, пагоняў, накіданьня сваіх звычак, веры. Як адлюстроўваліся ў мове нашыя адносіны з суседзямі ў мінулым?**

У маёй калекцыі ёсьць толькі адна “беларуска-ўкраінская” знаходка: *“Што кіяўцам зь ліцьвінамі дзяліць: сала сваё ды сяледзец куплёны?”*

Надзвычай цікавыя беларуска-балцкія моўныя характарыстыкі. *“Лабус ты недарэчны!”*, *“Ну ты драўгу (сябра) сабе знайшоў!”*, *“Вазьмі гарачую печаную бульбіну ў рот — і загаворыш па-латыску”*. Такое я чуў у роднай вёсцы ў маленстве, дзе нашымі суседзямі былі сярод іншых выхадцы зь Літвы й Латвіі.

Выказваньняў такога кшталту зь літоўскага боку ўдалося выявіць мала. Хіба толькі абразьлівы выраз “*gud(a)palaikis*” (*gudas* — беларус, *palaikis* — нікчэмны, кепскі).

У часы славянскай калянізацыі балтаў зьявілася група словаў, што адлюстроўвае ўплыў “гудаў-ліцьвінаў” на літоўцаў. Шмат гадоў таму я ўпершыню адкрыў для сябе літоўска-расейскі слоўнік Б.Сэрэйскіса (Коўна, 1933). Аўтар ня быў этнічным літоўцам і стварыў “непатрыятычны”, у нямецкай традыцыі, слоўнік, які засьведчыў чыста беларускі сьлед у літоўскім лексыконе. У пазьнейшых лексыкаграфічных выданьнях гэты сьлед зьнік ці атрымаў памету “арх.”.

Сярод тых лексэм былі *gudinimas* — накіданьне беларускага побыту, мовы; *gudinamasis* — той, хто ўкараняе беларускі побыт, мову, звычаі; *gudeti* — зьбеларусіцца; *gudejimas* — перайманьне беларускага духу, побыту; *gudiskumas* — запазычанае слова ці выраз зь беларускай. Гудамі літоўскія сяляне таксама называлі і сваіх землякоў, што размаўлялі на іншым літоўскім дыялекце. Так што “гудас” яшчэ значыла й “нянаскі”.

Сустракаюцца характарыстыкі беларусаў-ліцьвінаў і ў двухтоміку “*Пословицы русского народа*”, укладзеным У.Далем. Пераважаюць стрымана-паважлівыя выказваньні. Вось яны ў перакладзе: *біцца як зь Літвой* (зацята); *ліцьвін як лін: з-пад сучкі яйка ўкрадзе; ліцьвін-белашапачнік* (носіць дарагую шапку зь белага лямцу); *ліцьвін як грынь* (“грунь” — конь з дробным ходам): *гадзіну есьць, дзьве сьпіць, а дзень бяжыць; да каго Багародзіца, а да нас Літва* (у расейскіх гарадах на захад ад Масквы казалі: ікона выратавала Маскву ад Тамэрлана, а Вітаўт разбурыў расейскія землі); *Азоў быў слаўны, Смаленск — грозны, а Вільня — дзіўна*.

Адмоўных выразаў менш: *ліцьвіны — землякопы-лапатнікі; ліцьвін бабаў баіцца; ліцьвін па часе мае розум*. І яшчэ адно вельмі закручанае выслоўе безь перакладу: *“Гэта, відаць, рэшаты гонам гналі”, — кажа ліцьвін, пабачыўшы сьлед ад лапця на дарозе.* (У ліцьвінаў вочкі ў рэшаце вялікія, як прасьветы паміж лыкам у лапці, таму ядуць яны муку з ашакамі ды мякінай).

Беларусы кпяць часьцей самі зь сябе; *дурань з дурня сьмяецца: той сьвіньні ў Ракаў, а сам каxлю да Йвенца* (як ангелец вязе вугаль у Ньюкасл, гішпанец — жонку да Парыжу, расеец — самавары ў Тулу...); *абкруціў, як Шмэрка Заблоцкага; маскаль з ражном, Абрам зь віном, а ліцьвін — пусьці павалюся; маскаль — сьцібрыў паркаль, Абрам ды пшапрашам — ня жнуць, ня пашуць, а дурны ліцьвін — гарэ адзін; хітры ліцьвін: ад мацы растаўсьцеў*.



IREX-PROMEDIA

Такія вось размовы можна пабачыць на беларуска-ўкраінскай мяжы.

Незычлівыя выказваньні беларусаў да суседзяў як да ворагаў скіраваныя выключна на “маскалёў” — вайсковую набрыдзь з усходу: *жыві, хлопцы, пакуль Масква не адведала; ад маскаля хоць полы падрэж, ды ўцякай; ліцьвін маскалю пяткі пад Смаленскам падсмаліў; маскалю не было горшай як пад Воршай.*

Пра “сваю” веру знайшоўся ў маёй калекцыі толькі адзін шырока вядомы выраз: *старша Слуцка фара, чым нямецка вяра.* Пра гэта маляўніча напісана ў Вацлава Ластоўскага ў “Гісторыі крыўскай кнігі”.

**Пятро Садоўскі**

бібліятэка

# Разанаўскія пункціры



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

**“Гановэрскія пункціры” — назва новай кнігі Алеся Разанава, прэзэнтацыя якой адбылася 12 сьнежня ў бібліятэцы Інстытуту Гётэ. На яе сабралася вузкае кола людзей, асабіста запрошаных паэтам.**

Кніга выйшла ў Нямеччыне адразу дзьвюма мовамі — па-беларуску і па-нямецку. Перастварыў беларускую паэзію для немцаў Оскар Анцул, які таксама прысутнічаў на прэзэнтацыі кнігі.

Паводле словаў перакладчыка, не апошнюю ролю ў выбары аўтара для перакладу адыграў той факт, што Алесю Разанаву (як і Васілю Быкаву) няма як працаваць і тварыць на Радзіме.

Сам аўтар зазначыў, што ў новай кнізе ён стараўся ня выявіць сябе, а даць праявіцца новай для сябе мясьціне — Гановэру. “Тут больш пазаасабовага, чым у ранейшых кнігах. Там было больш асабовага — і бліжэй да заходняй мініятуры. А тут атрымалася бліжэй да ўсходніх формаў”, — адзначыў А.Разанаў.

Тым часам творчая стыпэндыя, выдзеленая А.Разанаву нямецкім бокам, канчаецца, і ў хуткім часе паэт стане бываць на Радзіме не наездамі, а пераберэцца на сталае жыхарства.

**А.Ш.**

кіно

# Забыўся — узгадаў — забіў

**Такі немудрагелісты шлях праходзіць галоўны герой фільма Дола Лаема “Ідэнтыфікацыя Борна”.**

Супэрагент, які перажыў амнэзію пасьля цяжкага раненьня, Борн (Мэт Дэйман) сноўдаецца па Бэрне, Парыжы і навакольлі, пакутуе ад галаўнога болю, мала сьпіць і задаецца філязофскімі пытаньнямі кшталту “хто я?” і “чаму нічога не памятаю?”. Аднак, калі яго спрабуюць арыштаваць або “грохнуць”, імгненна ўзгадвае баявыя навыкі ды старанна калечыць, нішчыць і разбурае ўсё навокал. Ягоная спадарожніца Мары (Франка Патэнтэ) — стэрэатыпны пэрсанаж: ані абаяльнасьці, ані характару, пустое месца дый годзе. Дый функцыі ў Мары нескладаныя — захапляцца незвычайнымі здольнасьцямі Борна, пэрыядычна яго цалаваць ды зацягваць у ложак. Між тым, сам супэргерой да інтыму ставіцца досыць абыякава.

Мала таго, што Борна ня любіць паліцыя, дык яшчэ й злыдзень-начальнік з ЦРУ спрабуе яго ліквідаваць — пасылае кілера за кілерам. Забіваючы іх, Борн паступова высьвятляе, што ён сам — спэцыяліст па забойствах, на падрыхтоўку якога дзяржава змарнавала 30 млн. баксаў. Узгадвае таксама, як у свой час ня выканаў заданьня — пакінуў жыць “замоўленага” мурына, пашкадаваўшы ягоных траіх дзетак.



У пошуку сваёй ідэнтычнасьці Борн (Мэт Дэйман) дапамагае Мары (Франка Патэнтэ) схаваць сваю.

А калі герой усё ўзгадаў, дык і апошнія праблемы вырашыў лёгка — забіў яшчэ зь дзясятак кілераў ды зьехаў на поўдзень да мора. А начальніка-мярзотніка “замовіў” іншы яшчэ горшы начальнік — бо што ж гэта за выведка, дзе калега калегу не падстаўляе!

“Ідэнтыфікацыя Борна” — экранізацыя аднайменнага бэстсэлеру Джона Лэдлэма. Супэрагент нагадвае савецкага дысыдэнта, які, ахвяруючы кар’ерай і здароўем, намагаецца распавесьці народу, што начальства жыве няправедна і кіруе дзяржавай несправядліва. Маўляў, кіраўніцтва неэфэктыўна выкарыстоўвае народныя грошыкі, марнуе 30 мільёнаў на падрыхтоўку спэцыялістаў, ад якіх карысьці меней, чым ад казла самі ведаеце чаго. Усё гэта неяк нянова. Да таго ж, у фільме няма ніводнага жарту — для шпіёнскай байкі рэч недаравальная. “Дзеці шпіёнаў”, “Анёлы Чарлі” або “Тры іксы” мелі гэткі посьпех найперш дзякуючы гумару. А калі бракуе жарцікаў, дык і дзеяньне цягнецца аднастайнанудотна. Глядзіш на экран, а там — адна “ідэнтыфікацыя”.

**Ягор Конеў**

новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Анталёгія беларускага санэту** / Укл. і аўтар прадм. Я.Хвалей. — Менск: Ураджай, 2002. — 394 с.

“Адзін беззаганны санэт варты цэлай паэмы”, — пісаў у свой час Буалё. Беларускія аўтары таксама не абмінулі ўвагаю гэты клясычны для эўрапейскай паэзіі жанр. У “Анталёгіі” нашага “калгаснага” выдавецтва (сьветлая яму памяць) сабраныя санэты нашых аўтараў, пачынаючы ад Купалы. Ёсьць там творы Багдановічавага наступніка Алеся Салаўя, санэты сучасных творцаў — Сільновай, Рублеўскай, Дранька-Майсюка. Асобны раздзел “Анталёгіі” складаюць вянкі санэтаў. Прадаецца кніга ў большасьці менскіх кнігарняў, цана — 4500 рублёў.

**Вішнёў З. Трап для сусьлікаў, альбо Нэкрафілічнае дасьледаваньне аднаго віду грызуноў: Раман без парахода і самалёта.** — Менск: Логвінаў, 2002. — 152 с. (Schmerzwerk)

Знайсьці раман можна на кніжных выставах у ТБМ і БНФ, у кнігарнях “Акадэмкніга”, “Падпісныя выданьні” ці замовіць праз “Кнігі — поштай”. Наклад абмежаваны.




**Запруднік Я. Дванаццатка: Дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі (1946–1954 г.)** / БІНіМ. — Нью-Ёрк, 2002. — 510 с.

**Некрашэвіч-Кароткая Ж. Нясьвіская Мэльпамэна: Драматургія Францішкі Ўршулі Радзівіл.** — Менск: ЭГУ, Прапілеі, 2002. — 212 с.: іл.

Княгіня Ўршуля Радзівіл вядомая як стваральніца арыгінальных камэдыяў, трагедыяў й опэры. Выдатна знаёмая з набыткамі эўрапейскай літаратуры, яна скарыстоўвала ў сваіх творах найлепшыя традыцыі заходніх аўтараў, у тым ліку й Мальера. Новыя факты з жыцьця пачынальніцы беларускай драматургіі, аналіз яе творчай спадчыны, а таксама гісторыя нясьвіскага прыдворнага тэатру зьмешчаныя ў манаграфіі, надрукаванай Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэтам. У “Акадэмкнізе” выданьне каштуе каля 7 тыс. рублёў, наклад — 300 асобнікаў.




**Сыс А. Сыс: Вершы.** — Менск: Мастацкая літаратура, 2002. — 159 с.: іл.

Паэт, імя якога ўжо ўвайшло ў легенду, выдаў новую кнігу. У яе ўвайшлі творы апошніх гадоў, а таксама вершы з папярэдніх зборнікаў — “Пан лес”, “Агмень”. Сыс усё яшчэ “ня попел і ня прысак”. Шукайце ў “Цэнтральнай” ды “Сьветачы”, наклад — усяго 200 асобнікаў, зь іх большая частка паляцела ў ЗША, дзе жыве фундатарка выданьня.

**Тацяна Вабішчэвіч**

## з рэдакцыйнае пошты

**“Таму, дарэчы,** я не хачу мець блізкага кантакту з паэткамі: яны гістэрычкі і прыносяць няшчасьце ня толькі іншым, але і сабе, ці — ня толькі сабе, але й іншым”.

**“Што да** выбараў прэзыдэнта Беластоку, ці, па-беларуску, мэра...”

**“Амаль тры** дзесяцігодзьдзі знаходзілася ў запусьценьні капліцка, якой, па сьцьверджаньнях старажылаў, ня менш за 300 гадоў”.

**“Сёньня жыхары** бяднейшых краінаў Эўропы зарабілі белую гарачку, калі даведаліся, што цэны на асноўныя спажывецкія тавары даражэюць як апантаныя”.

**“Падчас сёлетняга** чэмпіянату сьвету па футболе сярод заўзятараў нават хадзіў жарт, што пэрсанальна для беларусаў варта было зрабіць тэлевізар, які б перадаваў толькі інтэршум, а не голас камэнтатараў, слухаць якіх па БТ дзякуючы іх непрафэсіяналізму і няведаньню мовы было часам проста праціўна”.

**“У цэнтры** Мангэтану цяжка заблукаць: гарызанталі вуліц перакрыжоўваюцца з вэртыкалямі авэню, і амаль кожная мае свой нумар”.

**“Гэта на тваёй мове,** мове тваіх дзядоў размаўляў і друкаваў кнігі Францішак Скарына, а ён быў больш разумны, чым мы”.


IREX-PROMEDIA

**Беларуская сьпявачка Ліка выйшла замуж за грэка, перамагла ў конкурсе "Місіс Расея'2002" і паедзе на полюс.**

## Сабачыя гісторыі

**Адзін сабака пасьціў** перад Калядамі. А Граждан, даведаўшыся пра гэта, з раніцы да позьняга вечару смажыў сала, сьпяваў вьетнамскія песьні й танчыў з катом афрыканскія тангі.

**Адзін сабака купіў** перад сьвятамі скрыню гарэлкі. Граждан, убачыўшы гэта, сказаў: “Чэсныя людзі так не паступаюць. Яны ці адразу жэняцца, ці п'юць закусваючы...”

**Адзін сабака паслаў** віншавальную паштоўку другому. Граждан даведаўся, прыйшоў на пошту і заявіў: “Вас ахраняць я болей ня буду! Вы мяне нэрвуеце...”, — і кінуў у сьметніцу ржавую сякеру.

**Адзін сабака перад Калядамі** меў добры настрой. Граждан быў незадаволены працай і заробкам, жонкай і дзецьмі, суседзямі і асабліва тым, што сабака яшчэ ўсё жыве і ўсьміхаецца, як майская ружыца.

**Адзін сабака рыхтаваўся** да навагодніх сьвятаў. Граждан таксама рыхтаваўся і папрасіў суседзяў, калі ён раптам ня вернецца дамоў, каб яго пахавалі на Маскоўскіх могілках, а піянэры аддалі апошні барабан ягонаму ўнуку, які будзе дастойна працягваць дзедаву справу.

**У аднаго сабакі была** хата. А ў Граждана прапалі тры залатыя партсыгары, тры магнітафоны, тры фуфайкі, дзесяць пар гумавых ботаў, сорак штаноў, а самае галоўнае — білеты на опэру “Іван Сусанін забівае свайго сына Атэлу”.

**В.І.**

кар'ера

## Сьняданак зь Лікай Агурбаш

Колішняя першая пераможца першага ў Беларусі конкурсу прыгажосьці (у 1988 г. яшчэ проста “Менская прыгажуня”) Ліка Ялінская 14 сьнежня перамагла на конкурсе “Місіс Расея'2002”. Фінал, у якім бралі ўдзел 22 прэтэндэнткі з усёй Расеі — ад Санкт-Пецярбургу да Далёкага Ўсходу, адбыўся ў Сочы.

У конкурсе могуць браць удзел замужнія жанчыны ў веку ад 18 да 35 гадоў. Натуральна, гэта мусяць быць грамадзянкі Расеі. Л.Ялінская якраз сёлета выйшла замуж за грэка-прадпрымальніка і пераехала да свайго чалавека ў Маскоўскую вобласьць. Гэта другі шлюб Лікі, якая ўжо гадуе дваіх дзяцей — 14-гадовую Дашу і 4-гадовага Мікіту.

Пра беларускае паходжаньне “Місіс Расеі” мас-мэдыя маўчаць. Згадваюць толькі, што яна тэлевядучая (на БТ ішла перадача “Сьняданак зь Лікай”), акторка (у 16 гадоў Ялінская сыграла кепскую вучаніцу ў фільме рэжысэра А.Яфрэмава “Экзамен на дырэктара”) і сьпявачка.

Чаму ў Расеі ня кажуць, што пераможца конкурсу — беларуска? Як удалося высьветліць “НН”, муж не дазваляе. Менавіта ён, з рэклямных, відаць, меркаваньняў, настойвае, каб Ліка пісалася ягоным прозьвішчам — “Анжаліка Агурбаш”. Сама ж сьпявачка аддае перавагу двайному прозьвішчу “Ялінская-Агурбаш”. Вядома, “Ялінская” гучыць куды прыгажэй...

Як “Місіс Расея'2002”, Ліка возьме ўдзел у конкурсе “Місіс Эўропа”, што адбудзецца ў красавіку 2003 г. Другая частка ўзнагароды за перамогу выглядае больш экстравагантна. Ялінская выпраўіцца ў 5-дзённую экспэдыцыю на... Паўночны полюс (вядома, не адна, а разам з былымі палярнікамі). На полюсе яна мусіць паставіць сьцяг з выявамі ўсіх удзельніцаў фіналу конкурсу — арганізатары палічылі, што гэта будзе “акцыя прыгажосьці”. Багатым аматарам экзотыкі такое падарожжа каштуе 30 тыс. даляраў. Ліку ж адправяць задарма.

**А.Ш.**


АЛЕНА АДАМЧЫК

## прыватныя абвесткі

### вітаньні

**Дзякуй, Ніле Гілевіч**, за цудоўную прадмову да кнігі твораў Янкі Купалы, якая выйшла ў “Беларускім кнігазборы”

**Жаночая сэкцыя gegaruchu :)** віншуе Алеся Мікуса з народзінамі. Вышэй за нас адно багі!

**Віталя Кутырло** з Днём народзінаў. Мора каханьня і посьпеху ў асабістым жыцьці. Родныя

### ідэі

**Vosieńskaja kvietka**, żyvi! Tolki żyvi! Ty možaš, i viera z taboju. Ave! Ałalej

**Panna Julija**, dačka Tadevuša, nievynosny sum žyvie ŭ sercy, bo Ty chvarеješ tak niedapuščalna doŭha... Ałalej

**Раз у тыдзень.** Ня шмат. Бяру ў рукі “Нашу Ніву”. Разгортваю яе. Чытаю. Вывучаю праграму TV на беларускай мове. Адчуваю сябе беларусам

**Грэка-праваслаўныя!** Аніякай падтрымкі Расейскай праваслаўнай царкве (РПЦ)

**Па-за касьцёлам** няма збаўленьня! Ні табе, ні краіне! Вернік, патрыёт ВКЛ

**Замест** “Depeche Mode” трэба абеларусіць больш зьмястоўную музыку! Напрыклад, легендарную вугорскую “АМЕГУ”! Слухач

### кантакты

**Літаратурна-мастацкая імпрэза** да ўгодкаў Першага Ўсебеларускага зьезду адбудзецца 18 сьнежня а 17.30 ля помніка Янку Купалу

**Пераехалі настала ў Раўбічы** і шукаем кола беларускамоўных знаёмых у Раўбічах, Аколіцы, Астрашыцкім Гараду ды ваколіцах. Ёсьць жа гэткія? То тэлефануйце па менскім нумары 268-25-88 у працоўны час Уладзімеру

**Беларуская** Партыя Свабоды ў Менску. Т.: 211-00-00, аб.83602. Кожны аўторак ля помніка Я.Купалу

**Парнатаўцы!** Мастакі, музыкі. 24 сьнежня а 16-й прыходзім на 40 гадоў школы ў Тэатар апэрэты!

**Неўтаймавальнай лісічцы.** Вяртаюся дахаты Шэры асфальт шашы. Жоўтыя фары машын. Зьверху зіхацяць зорачкі: белыя, блакітныя, бэзавыя. Бачу тваё зялёныя вочы. Цьмяны

### кватэра

**Куплю** 2—3-пакаёвую кватэру без пасярэднікаў. Т.: 234-46-06

### кнігі, музыка

**Дапамагу рэалізаваць** у Гомелі беларускія кнігі, CD і аўдыё. Прапановы на e-mail: bandrej@tut.by

**“Беларускі кнігазбор”** — у Гомелі на пл.Паўстаньня штонядзелю да 13.00. E-mail: bandrej@tut.by

**Адкрыўся сайт** гурту “Стары Ольса”, ягоны адрас: olsa.by.ru

### лічыць несапраўдным

**Студэнцкі білет** №004102 на імя Баўкуновіча І.

**Пасьведчаньне** ўдзельніцы тылу вялікай айчыннай вайны на імя Прудзіч Вікторыі Восіпаўны

### праца

**Шукаю працу карэктара**, стыль-рэдактара, журналіста. Крысьціна. Т.: 268-25-88

**Тканыя паясы** на замову. Ніводзін узор не паўтараецца — кожны працягвае традыцыю. Каштоўны падарунак. Т.: 252-86-28 (Аляксандра)

**Ангельская мова**, індывідуальныя заняткі, якасна і нядорага. Т.: 284-30-35, Вольга

**Індывідуальныя заняткі** па беларускай мове для школьнікаў (абітурыентаў). Студэнт V курсу філфаку БДУ. Т.: 237-52-22

**Тэмы** па ангельскай мове абітурыентам. а/с 223, 220030, Менск-30



Гэты нумар “НН” выйшаў дзякуючы Ўладзімеру зь Менску.

**Адказ на крыжаванку, зьмешчаную ў “НН” №46.**

**Па гарызанталях:** 1. Базыс. 3. Пансіянат. 5. Мануфактура. 9. Водар. 10. Сапло. 11. Арка. 13. Трэк. 16. Пас. 17. Ака. 19. Матадор. 22. Каноэ. 23. Імпэт. 25. Надзел. 26. Солтан. 27. Дыялект. 28. Сянько. 30. Войска. 32. Тарыф. 33. Вянец. 34. Аўтажыр. 37. Кар. 38. Чэк. 39. Агат. 41. Сочы. 42. Розум. 43. Дзяды. 44. Майстэрства. 49. Рамізьнік. 50. Тэкст. **Па вэртыкалях:** 1. Банту. 2. Санэт. 3. Пта. 4. Тур. 5. Мова. 6. Фармат. 7. Каскад. 8. Азот. 11. Астэнасфэра. 12. Катод. 14. Рыніт. 15. Калінкавічы. 16. Панэгірык. 18. Адпачынак. 19. Малдова. 20. Акаліна. 21. Раствор. 22. Катэт. 24. Танец. 29. Нарва. 31. Сукно. 35. Тэрміт. 36. Жандар. 40. Трум. 41. Сыта. 45. Аер. 46. Сумёт. 47. Сэнат. 48. Век.

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## Дзень зямлі. Беларусь-2003

Міністэрства адукацыі, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя ды грамадзкая арганізацыя “Беларускі зялёны крыж” у межах фэстывалю “Дзень Зямлі. Беларусь-2003” аб'яўляюць 8 творчых конкурсаў у наступных намінацыях.

Конкурс малюнку і жывапісу сярод школьнікаў **“Я малюю сьвет”** (век удзельнікаў — ад 5 да 16 гадоў); конкурс на самы лепшы праект адраджэньня забытага помніка культуры **“Нам засталася спадчына”** (да 18 гадоў, старэйшыя могуць браць удзел у выставе праектаў па-за конкурсам); фатаконкурс **“Людзі Беларусі”** (да 18 гадоў); конкурс аўтараў і выканаўцаў песень і вершаў **“Срэбныя струны”** (век не абмежаваны); літаратурна-фальклёрны конкурс **“Бабуліна замова і матуліна калыханка”** (век не абмежаваны); літаратурны конкурс для школьнікаў **“Я маю твор...”** (ладзіцца ў сямі жанравых намінацыях на беларускай, расейскай, украінскай і польскай мовах); конкурс экалягічнага праекту **“Дом, дзе я жыву”** (праекты мусяць быць зрэалізаваныя да 1 сакавіка 2003 г.); экспэрымэнтальны конкурс **“Лёс, лёсам, пра лёс...”** (магчымыя варыянты выкананьня: скласьці генэалягічнае дрэва, стварыць “геаграфічную карту” сваёй сям'і, па якой было б відаць, колькі народаў, геаграфічных рэгіёнаў яна злучыла, апісаць традыцыі, рэліквіі і каштоўнасьці сваёй сям'і).

Работы прымаюцца да 1 сакавіка 2003 г. Дасылаць іх трэба на адрас: “Беларускі зялёны крыж”, вул.Кастрычніцкая, 16, к.5, пакой 511, 220030, Менск. Допісы павінны мець памэтку “Дзень Зямлі”. Можна даслаць працу і электроннай поштай: earthday@greencrossbelarus.org. Кантактныя тэлефоны: 227-79-54, 227-57-80.

Пераможцаў усіх конкурсаў пры канцы красавіка 2003 г. запросяць у Менск на заключны фэстываль “Дзень Зямлі. Беларусь-2003”, дзе ўзнагародзяць дыплёмамі, прызамі, падарункамі.


НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары “Нашай Нівы”:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| выпускны рэдактар | Сяргей Ёрш |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| тэхнічны рэдактар | Андрэй Чык |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, (0296) 13-32-32.
E-mail: nn@promedia.by
www.nn.by





Спасылка на “Нашу Ніву” абавязковая. 8 палос фарматам А2. Друкарня РУП “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”. Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 2002 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: г. Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.

Наклад 3901.

Нумар падпісаны ў друк 18.12.2002.

Замова № 8623.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а